НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 13 (802) 3 красавіка 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднаўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Тудэма-сюдэма



Сто візітаў Лукашэнкі: кожны другі ў Расію. Старонка 3.

REUTERS/ALEXEI DRUZHININ

**На фота: сустрэча з Пуціным у Санкт-Пецярбурзе 15 сакавіка.**

## Справа выкладчыкаў

У Гродне працягваюцца **звальненні супрацоўнікаў універсітэта**.

31 сакавіка выкладчык кафедры тэорыі дзяржавы і права Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта Ігар Кузьміновіч выступіў з адкрытым лістом да кіраўніка Гродзенскай вобласці Сямёна Шапіры. У ім ён заявіў, што звальняецца з працы ў знак пратэсту супраць пераследу выкладчыкаў ВНУ, аўтараў кнігі «Гродназнаўства».

**Працяг на старонцы 7.**

**Прадмесці Мінска**

### Паміж кватэрай і хатай

Што ўяўляюць сабой таўнхаусы пад Мінскам?
**Старонка 5.**



**Пра-свет**

### Як выхоўваюць дзяцей у Польшчы

Пасля нараджэння дзіцяці дзяржава не дае ні капейкі дапамогі. **Старонка 6.**



**Чалавек**

### Беларусь у абдымках зор

Віктар Малышчыц пра астраномію, фатаграфію, сям'ю. **Старонка 9.**



**Адпачынак**

### Беларускія санаторыі прадаюць апошнія пуцёўкі

Знайсці месца на чэрвень-ліпень ужо складана. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Драбільшчык Літвінка: **Я тлумачыў, як змагацца за свае правы**

На «Граніце» — **новае звальненне.**

Драбільшчыка Анатоля Літвінку азнаёмілі з загадам аб звальненні 1 красавіка, пасля выхаду з начной змены. Але гэта быў зусім не жарт.

Прычына — «сістэмнае невыкананне працоўных абавязкаў». «Чапляліся да кожнай дробязі. І за ўсё афармлялі загады», — кажа Літвінка карэспандэнту «НН». Да гэтага, за 12 гадоў працы, спагнанняў работнік не меў.

Незалежны прафсаюз узнік на «Граніце» пры канцы 2011. Да яго далучылася больш за 200 чалавек. Людзі патрабавалі лепшых умоваў працы і павышэння заробкаў.

Рэгістраваць прафсаюз на прадпрыемстве адмовіліся. Пагрозамі змусілі многіх выйсці з яго шэрагаў. Самых упартых звальнялі. Так, напрыклад, здарылася з лідарам суполкі, кіроўцам БелАЗа Алегам Стахаевічам.

«Сваіх не кідаю, працягваю дапамагаць хлопцам, якія застаюцца працаваць на «Граніце», — кажа Стахаевіч. Ён змог знайсці працу, але не кажа дзе.

Агулам з прадпрыемства ўжо звольнілі сем чалавек: Алега Стахаевіча, Мікалая Карышава, ягоную жонку, Віталя Пашэчку, Генадзя Паўлоўскага, Анатоля Літвінку і ягоную жонку Людмілу. «Рыхтуюцца звольніць яшчэ памочніка машыніста эскаватара Леаніда Дубаносава, але не могуць ніяк, бо ён у адпачынку да мая», — кажа Стахаевіч.

Чаму новая хваля звальненняў адбываецца цяпер? «Зачышчаюць канчаткова лідараў незалежнага прафсаюза, — кажа Літвінка. — Адміністрацыя баіцца нязгодных».

Прычыну канкрэтна свайго звальнення ён патлумачыў так: «У нас на прадпрыемстве нядаўна прайшла атэстацыя рабочых месцаў. Пасля гэтага нас пазбавілі некаторых ільгот: аднялі сем дзён ад адпачынку, зменшылі аплату за працу ў шкодных умовах. Я стаў тлумачыць, як з гэтым змагацца. Паводле адукацыі я юрыст. Афіцыйны ж прафсаюз прамаўчаў».

Літвінка мае намер судзіцца, хоць і не асабліва верыць, што гэта дасць вынік. «Працу ў Мікашэвічах пасля звальнення з «Граніта» знайсці амаль нерэальна», — кажа ён.

Літвінку 37 гадоў, ён родам з Мікашэвіч. «Нашаму генеральнаму дырэктару таксама 37 [Эдуарду Гаўрылковічу — «НН»]. Мы з ім вучыліся ў паралельных класах. Вельмі добра яго ведаю. Але шляхі мы з ім выбралі розныя».

Ці не сорамна дырэктару звальняць колішняга прыяцеля? «Сорамна, думаю. Але пасля кожнага наступнага ўчынку насуперак уласнаму сумленню такое пачуццё прытупляецца», — кажа Анатоль Літвінка.

**Зміцер Панкавец**


Анатоль Літвінка.

### Ад Рэдактара

Сімвалічна, што гэтым разам «за палітыку» адначасова звальняюць рабочых — на «Граніце» (Анатоль Літвінка) і прафесуру — у Гродне (Вячаслаў Швед).

У чым жа заключалася іх «палітыка»?

Рабочыя з мікашэвіцкай каменаломні паспрабавалі арганізаваць рэальны прафсаюз (ведамства Козіка там існуе, як і ўсюды, для праформы), каб дабіцца павышэння зарплат.

А выкладчыкаў Гродзенскага ўніверсітэта (імя Янкі Купалы!) караюць за ўдзел у выданні кнігі «Гродназнаўства», на вокладцы якой гісторыкі змясцілі «Пагоню» — герб, які быў дзяржаўным на нашых землях прынамсі 500 гадоў з 900, якія існуе Гродна.

Вось такія «злачынствы». Вядома ж, і свабода стварэння прафсаюзаў, і свабода слова гарантаваныя законамі Беларусі. На паперы.

І тыя, і тыя звальненні маюць на мэце застрашыць — у адным выпадку рабочы клас, у другім — інтэлігенцыю. Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Шапіра прызнаўся, што сам прыклаў руку да звальнення, з падачы КДБ.

Якімі будуць наступствы гэтых звальненняў? Звальненні выкладчыкаў адназначна прывядуць да таго, што Беларусь чарговы раз не прымуць у еўрапейскі Балонскі працэс, г.зн. беларускія дыпломы не будуць прызнавацца за межамі краіны. Таму што калегі з еўрапейскіх ВНУ адмаўляюцца лічыць універсітэтамі ўстановы, з якіх выкладчыка можна вось так проста выгнаць за ўдзел у напісанні кнігі, па рашэнні нейкага там губернатара ці спецслужбы.

На абарону ж рабочых «Граніта» паўстануць сусветныя прафсаюзы.

Але галоўнае — гэтыя звальненні змяняць свядомасць сем'яў, калектываў, супольнасцяў. Несправядлівасць не забываецца і вяртаецца да тых, хто яе чыніць.

**Больш на гэтую тэму — старонка 7.**



**То ў адным, то ў другім горадзе Беларусі з'яўляюцца бел-чырвона-белыя сцягі або ўлёткі з нацыянальнай сімволікай. Такім чынам выказваецца пратэст супраць існых парадкаў. Так, раніцай 25 сакавіка, у 95-ю гадавіну абвяшчэння незалежнасці БНР, невядомыя патрыёты ўзнялі нацыянальны сцяг у Мінску над вуліцай Няміга. Ён быў прымацаваны да дратоў лініі электраперадач. Сцяг здымалі супрацоўнікі МНС з дапамогай тэлескапічнай лесвіцы. Фота ў рэдакцыю даслалі чытачы «НН», якія пабачылі гэта.**

**ЗЛ**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Адд. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15750 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18911 руб./месяц.

### Сціслa

**«Чарнобыльскі шлях — 2013» традыцыйным маршрутам**

Аргкамітэт падаў у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне шэсця і мітынгу 26 красавіка. Маршрут традыцыйны — збор на пляцоўцы каля Акадэміі навук, а затым — шэсце па вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў, дзе павінен прайсці мітынг.

**Вольгу Класкоўскую арыштавалі ў Швецыі**

Ёй прад'явілі абвінавачанне ў замаху на забойства былога мужа. Раней сацыяльныя службы Швецыі забралі ў Класкоўскай малалетняга сына Адама.

**Торбін і Матушкін звольненыя з «Дынама»**

Генеральны дырэктар хакейнага «Дынама», былы супрацоўнік МУС 30-гадовы Аляксей Торбін і спартыўны дырэктар Ігар Матушкін (былы хакеіст зборнай краіны) пазбаўленыя пасадаў. Такое рашэнне прыняў старшыня БФСА «Дынама» Юрый Барoдзіч. Зрэшты, не факт, што сам Барoдзіч захавае пасаду. Прычына — няўдалы выступ клуба.

**Мінюст ліквідуе «Добрую волю»**

1 красавіка Вярхоўны суд пачаў разглядаць іск Міністэрства юстыцыі супраць міжнароднага грамадскага аб'яднання «Добрая воля». «Спачатку вынеслі папярэджванне, потым прыпынілі дзейнасць арганізацыі, а зараз хочуць ліквідаваць», — расказаў «Нашай Ніве» старшыня арганізацыі Леанід Скарабагаты. «Добрая воля» была заснавана ў 1998 годзе як дабрачынны фонд. Да 2007 года арганізацыя займалася аздараўленнем дзяцей за мяжой.

**КХ, ЗП**

**Рэкамендуем**

## Як выглядаў пашпарт БНР

Піша гісторык Наталля Гардзіенка.

**Глядзіце і чытайце на nn.by.**

**Дзякуй за ахвяраванні на выхад «Нашай Нівы»**

Васілю і Валянціне Д. з Брэста, а таксама Эльжбеце С. і Зоі Л.-Н.

**Самае чытанае на nn.by за 27 сакавіка — 2 красавіка**

1. Спецназ з аўтаматамі праз вокны захапіў кватэру ў Серабранцы — фота
2. Палкоўнік Макей: Генерал плакаў, калі пачуў песню па-беларуску
3. Прычынай смерці Беразоўскага было павешанне
4. Першая партыя беларуска-кітайскіх легкавікоў паступіла ў продаж у Мінску
5. У «Вячэрнім Урганце» пасмяяліся з візіту Лукашэнкі ў Эміраты — відэа
6. Як жыве беларуская сям'я ў Канадзе + фота
7. Сёняшнія першакрасавіцкія жарты ад СМІ: рэйтынг «НН»
8. Сіноптыкі: Хуткая вясна можа прывесці да катастрафічных паводак
9. Лукашэнка ў Эміратах трохі адпачыў?
10. Віктар Марціновіч. Годзе фоціць!

# Сто візітаў Лукашэнкі: кожны другі ў Расію

Мяркуючы па статыстыцы, мае месца **поўная залежнасць**.



**Тры чвэрці паездак Лукашэнка здзяйсняе ў краіны СНД.**

«Міралюбнасць і шматвектарнасць, прагматызм і паслядоўнасць — нарожныя камяні замежнай палітыкі Беларусі», — гэтак Лукашэнка кажа, атрымліваючы даверчыя граматы дыпламатаў замежных краін. Падобныя прамовы гучаць падчас прэс-канферэнцый і выступаў у парламенце. Мантру пра «шматвектарнасць» паўтараюць дзяржаўныя СМІ.

Чарговая нагода загаварыць пра шматвектарнасць — візіты Лукашэнкі ў Інданэзію, Сінгапур і ААЭ. Вядома, падаецца гэта як вялікае дасягненне кіраўніцтва краіны ў цэлым і беларускай дыпламатыі ў прыватнасці.

«Наша Ніва» вырашыла падлічыць вектары беларускай дыпламатыі ў сапраўднасці. Для гэтага мы прааналізавалі сто апошніх візітаў Аляксандра Лукашэнкі ў замежжа. Браліся і тыя, што сумяшчаліся з адпачынкам, бо фактычна ніколі прэс-служба не дае простым тэкстам, што лідар краіны накіраваўся ў адпачынак. Найчасцей гэта суправаджаецца нейкімі сустрэчамі.

«Сотым па даўнасці» візітам аказалася сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна 5 чэрвеня 2004 у Сочы. Атрымліваецца, што ў сярэднім за год кіраўнік краіны здзяйсняе больш за 10 візітаў. Гэта звычайная лічба для прэзідэнтаў іншых краін. Прыкладна столькі ж разоў межы сваёй радзімы перасякаюць Уладзімір Пуцін ці Барак Абама.

Але, відаць, не бывае такога, каб кіраўнік незалежнай дзяржавы іншую краіну за год наведаў аж восем (!) разоў. А менавіта столькі разоў Лукашэнка быў у Расіі ў 2008. Найчасцей гэта суправаджалася сустрэчамі з кіраўніцтвам Расіі (за той год прэзідэнтамі пабылі і Пуцін, і Мядзведзеў). Але ездзіў Лукашэнка ў Белакаменную таксама на пахаванне патрыярха Аляксія II (з жалобных мерапрыемстваў Лукашэнка яшчэ наведваў пахаванне Ельцына і Каракас, каб развітацца з Чавэсам) і для ўдзелу ў хакейным турніры.

У 2005 візітаў у Расію было сем, у 2006, 2009 — шэсць. У 2010, калі адносіны Беларусі і Расіі былі найгоршымі, НТВ паказвала разгромныя стужкі пра кіраўніка Беларусі, Лукашэнка ўсё адно прыязджаў да Мядзведзева аж тры разы. У тым ліку адбылася сустрэча ў Маскве за дзевяць дзён да выбараў. Тады Расія паабяцала Беларусі грашовую дапамогу. А многія апазіцыйныя кандыдаты ў Беларусі развіталіся з ілюзіяй, што «Масква нам паможа».

Агулам ад 2004 года Лукашэнка быў у Расіі аж 46 разоў. Мабыць, гэта сусветны рэкорд. Фактычна, кожны другі візіт. Гэта паказчык нармальны для сатрапіі, але не для незалежнай краіны.

Для параўнання. Пуцін быў у Мінску восем разоў. Лічба таксама немалая, але відавочнага перакосу няма. У суседняй Украіне Пуцін быў 15 разоў, 11 разоў — у Нямеччыне, сем — у Італіі, шэсць — у Кітаі, пяць — у ЗША.

Дзмітрый Мядзведзеў за свой тэрмін увогуле наведаў Беларусь толькі двойчы. Роўна столькі ж, як Польшчу, Чэхію, Фінляндыю ці Японію. Нават у Азербайджане быў часцей у два разы, не кажучы ўжо пра ЗША, Нямеччыну ці Францыю.

### СНД

Увогуле, з сотні візітаў тры чвэрці прыходзяцца ў краіны СНД. На другім месцы пасля Расіі ідзе Казахстан (10 разоў). Гэта і ўдзел ва ўсялякіх самітах, і асабістыя сустрэчы з Назарбаевым, і адпачынак на лыжным курорце Чымбулак.

Чатыры разы Лукашэнка быў у Туркменістане. Добра бачна, што інтэнсіўнасць візітаў павялічылася пасля прыходу да ўлады ў азіяцкай краіне прадказальнага Бердымухамедава, які некалькі разоў быў у Мінску. Пры Ніязаву такія сустрэчы былі радзейшымі.

Столькі ж, як у Туркменістане, Лукашэнка быў ва Украіне. Адна сустрэча была яшчэ з Віктарам Юшчанкам. Лукашэнка быў у Кіеве адразу пасля абрання Януковіча. Пасля сустракаўся з ім яшчэ. Але пасля таго, як украінскае кіраўніцтва не захацела бачыць кіраўніка Беларусі на 25-годдзі Чарнобыльскай трагедыі, кантакты пайшлі ўніз. Лукашэнка тады назваў Януковіча «вашывым».

Двойчы кіраўнік краіны лётаў у Азербайджан. Адзін з візітаў прыйшоўся на складаны чэрвень 2010, тады менавіта ў Баку Лукашэнка шукаў грошы, каб разлічыцца з расейскімі пазыкамі.

Цікава, што за гэтыя 10 гадоў Лукашэнка ніводнага разу не быў у Грузіі і Узбекістане. Хоць Лукашэнка і сімпатызаваў Міхаілу Саакашвілі, некалькі разоў сустракаўся з ім на нейтральнай тэрыторыі, але ехаць у Тбілісі ў піку Маскве не рашыўся. Што датычыць Узбекістана, то ў Лукашэнкі і Карымава вельмі нацягнутыя адносіны яшчэ з першых гадоў прэзідэнцтва. У Мінску нават няма ўзбекскага пасольства (адзінага з постсавецкіх краін).

### Сябра Уга

З іншых візітаў вылучаюцца ваяжы Аляксандра Лукашэнкі ў Лацінскую Амерыку. На другім канцы зямлі быў знойдзены венесуэльскі аміга. У Каракасе кіраўнік Беларусі гасціў чатыры разы. Венесуэла разглядалася лукашэнкаўцамі як альтэрнатыва для паставак расійскай нафты. З Карыбскага мора ў бок Беларусі нават паплылі танкеры з палівам, але праз нейкі час ад гэтай ідэі было вырашана адмовіцца.

Разам з Венесуэлай былі наведванні і іншых краін рэгіёна — Бразіліі і Эквадора.

Вялікім дасягненнем Лукашэнка заўсёды падае сяброўства з Кітаем. У Паднябеснай беларускі лідар быў тройчы: у 2005, 2010, а таксама на адкрыцці Алімпіяды ў 2008.

Зразумела, што многія краіны, куды накіроўваюцца афіцыйныя дэлегацыі Беларусі, маюць не надта добрую рэпутацыю ў свеце. Іран і Куба таму пацверджанне.

Звяртае ўвагу, што на афрыканскім кантыненце Лукашэнка за 10 гадоў так і не пабываў.

### Еўрапейскі прабел

Што даюць візіты ў Ліван ці В'етнам — сказаць цяжка. Тавараварот паміж нашымі краінамі зусім невялікі. Асноўныя нашы гандлёвыя партнёры Беларусі знаходзяцца ў Еўропе.

Наведваць гэтыя краіны Лукашэнка меў магчымасць у кароткі перыяд паміж 2009 — 2010. Тады кіраўнік краіны пабываў у Італіі, Літве, Сербіі, Турцыі. Пасля падзеяў 19 снежня 2010 такая магчымасць у Лукашэнкі знікла.

Тавараварот з Германіяй у 2011 склаў 4,3 мільярда даляраў, з Латвіяй — 3,2, з Польшчай — 2,4, з Італіяй — 1,5, з Літвой — 1,5. Вядома, гэтыя лічбы можна і трэба павялічваць. Гэта ўсё ж самы багаты рэгіён і самы ёмісты рынак свету. Але Беларусь упарта шукае шчасця недзе за краем свету.

А вось, напрыклад, у такой багатай, важнай і ўплывовай краіне, як Германія, Лукашэнка за апошняе дзесяцігоддзе не быў ні разу! У Польшчы — вялікі сусед і немалы рынак — таксама ні разу. Швецыі — краіне з перадавымі індустрыйнымі і сацыяльнымі тэхналогіямі, якая, нібы магутны цягнік, падцягвае да свайго ўзроўню краіны Балтыі, — таксама ні разу.

Паездка ў ЗША не павінна нікога ўводзіць у зман. У верасні 2005 Лукашэнка быў у Нью-Ёрку на пасяджэнні генеральнай асамблеі ААН. Што датычыць Швейцарыі, то там кіраўнік краіны адпачываў у пачатку 2010.

Выглядае, што рэальная шматвектарнасць зводзіцца да простай формулы: Расія, Расія, яшчэ Расія і трохі Казахстана.

**Зміцер Панкавец**

## 100 апошніх замежных візітаў Лукашэнкі



# «Тудэма-сюдэма»: на хакей грошы ёсць, а на тэатр — не

Лукашэнка прапанаваў Купалаўскаму тэатру **выйсці на самаакупнасць**.

Лукашэнка дзесяць гадоў не быў у тэатры. Апошні раз ён наведваў пастаноўку Купалаўскага «Князь Вітаўт». Галоўную ролю тады выканаў Генадзь Давыдзька, сённяшні старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

Цяпер з'явілася нагода — адкрыццё будынка Купалаўскага тэатра, што стаіць проста насупраць рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы, пасля рэканструкцыі. Для пастаноўкі абралі «Паўлінку»: бяспройгрышны варыянт. П'еса Янкі Купалы адкрывае сезон на галоўнай сцэне краіны ад 1944. А сёлета ўвогуле 100-годдзе ад першай пастаноўкі «Паўлінкі».

Кампанію Лукашэнку ў тэатры склалі прэм'ер Міхаіл Мясніковіч, мінскі галава Мікалай Ладуцька, міністр культуры Барыс Святлоў. Вакол будынка і ва ўсіх суседніх кварталах дзяжурылі сотні «тэатралаў» з рацыямі. Затрымлівалі нават журналістак.

«Вы вельмі душэўна ігралі. І гэта вартае грошай», — сказаў кіраўнік краіны пасля імпрэзы. Лукашэнка паставіў перад тэатрам задачу зарабляць грошы. Вось які дыялог адбыўся ў кіраўніка краіны з Барысам Святловым.



Паводле інфармацыі Белстата, у краіне працуе 27 тэатраў. Для параўнання, лядовых арэн у Беларусі як мінімум 29. Да наступнага года мусіць працаваць больш за 50 хакейных пляцовак.

За 2011 год тэатры наведалі 1,85 мільёна чалавек. Найбольшая колькасць гледачоў наведала Оперу і балет (238 тысяч гледачоў) і Тэатр музкамедыі (198 тысяч), бо ў іх самыя ўмяшчальныя залы. У Віцебскім Коласаўскім тэатры пабывала 110 тысяч. У Купалаўскі прыйшла 81 тысяча гледачоў, але тэатр увесь мінулы год не меў уласнага памяшкання. Да таго, тэатр запаўняўся амаль цалкам.

Для параўнання, гульні футбольнага чэмпіянату Беларусі-2012 наведалі 332 тысячы чалавек — у сярэднім каля 2000 чалавек за гульню. А вось на хакейны чэмпіянат краіны прыходзілі ў сярэднім па 900 гледачоў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Тутэйшыя»**

Спектакль Мікалая Пінігіна па п'есе Янкі Купалы нязменна збіраў аншлаг, але яго знялі з рэпертуару. Афіцыйнай прычынай назвалі «зношанасць дэкарацый». Аднак усе сышліся на думцы, што справа ў змесце п'есы, што выкрывае прыстасаванцаў-зноскаў.

| | |
|---|---|
| Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы | 4,6 |
| Хакейны клуб «Дынама» (Мінск) | 24 |



Бюджэт, у пераліку на млн даляраў

**Лукашэнка:** Гэта датацыйная фірма, так? Дык давайце дамо ім магчымасць зарабіць: колькі зaробяць — столькі і падзеляць. Вызвалім іх ад падаткаў. Паглядзім, што народ скажа ў адказ.

**Святлоў:** Аляксандр Рыгоравіч, сёння бюджэт 40 мільярдаў, прынамсі, у 2013 годзе, і 30% — зарабляе сам тэатр ...

**Лукашэнка:** Гэта значыць, яны не гатовыя, як на Захадзе, у вольнае плаванне выйсці, і зарабляць грошы на сваё існаванне, і плаціць зарплату.

**Святлоў:** Я думаю, у такіх умовах яны гатовыя, але ўсё роўна нейкую датацыю ім плаціць трэба.

**Лукашэнка:** Добра. Давайце заплацім 15%, а астатняе хай зарабляюць. Тады будзе варушэнне. А так, пустуюць залы, пустуюць ... Падумайце і падайце прапановы.

Насамрэч гэта няпраўда, што тэатры на Захадзе самастойна зарабляюць грошы, а не ўтрымліваюцца за кошт бюджэту.

Пачнём з найбліжэйшага суседа Беларусі — Расіі. Летась урад гэтай краіны выдзеліў Бальшому тэатру 375 мільёнаў рублёў (12 мільёнаў даляраў). Але агульныя гранты на тэатр склалі ўвогуле больш за 1 мільярд расійскіх рублёў.

Парыжскі аналаг Купалаўскага — нацыянальны драматычны тэатр «Камедзі Франсэз» атрымлівае з дзяржаўнага бюджэту больш за 30 мільёнаў еўра. Прыкладна столькі ж атрымлівае ад італьянскага ўрада опера «Ла-Скала». Гэта палова (плюс-мінус 5%) ад агульнага бюджэту гэтых тэатраў.

За дзяржаўныя грошы дзейнічае Оперны тэатр Осла. Тэль-Авіўскі «Габіма тэатр» таксама часткова фінансуецца за кошт дзяржаўных і гарадскіх сродкаў.

Чэшскі ўрад нядаўна зменшыў фінансаванне Нацыянальнага тэатра на 15%. Тым не менш, пасля гэтага агульны бюджэт пражскага тэатра складае 26 мільёнаў даляраў.

Адзіным выключэнне тут хіба з'яўляецца «Метраполітэн Опера» ў ЗША, якая ўтрымліваецца за кошт дапамогі багатых людзей (мецэнатаў). Бюджэт нью-ёркскай оперы перавышае 220 мільёнаў.

Бюджэт Купалаўскага тэатра (4,6 мільёна даляраў) на гэтым фоне выглядае больш чым сціпла. Але нават такія грошы ўлады не гатовая выдзяляць на тэатр. Атрымліваецца, што ва ўсім свеце тэатру дапамагае дзяржава, а хакей выжывае сам. У нас жа ўсё наадварот.

**Зміцер Панкавец**

**Каментар**

## Дзе ён бачыў самаакупныя тэатры ў Еўропе?

Піша **Мікалай Халезін**.

Гэта дзе «на Захадзе» ён убачыў самаакупныя нацыянальныя тэатры? Хоць на Захадзе, хоць на Усходзе — не існуе ў ніводнай краіне свету самаакупных нацыянальных тэатраў.

Нават у незалежных буйных тэатраў фінансаванне складаецца з трох крыніц: трацiна — продаж квіткоў; трацiна — дапамога незалежных фінансавых донараў; трацiна — дапамога дзяржавы.

Лепіць абы-што, а людзі думаюць: і праўда, а чаму «на Захадзе» могуць тэатры самі на сябе зарабляць, а ў нас не? І сапраўды. Трымаеш трупу ў 60 чалавек, тэхнічныя службы — плюс яшчэ столькі ж, матэрыялы закупляеш для дэкарацый, плаціш за святло, транспарт, паслугі сувязі, за размяшчэнне рэкламы, аплачваеш камуналку — святло, ваду, ацяпленне, робіш бягучыя рамонты. І ўсё гэта за прададзеныя па тры даляры квіткі.

Май нармальныя адносіны з прадстаўнікамі еўрапейскіх структур, камунікуй з буйнымі фондамі, фестывалямі, культурнымі аператарамі, ствары ўласную фандрайзінгавую структуру, і пытанне з фінансаваннем тэатра закрыеш. Толькі вось бяда — рабіць гэтага няма каму.

Ну, калі трэба арганізаваць працэс фінансавання нацыянальнага тэатра, хай Міністэрства культуры звяртаецца да нас — «Свабодны тэатр» гэтую праблему вырашыць на працягу паўгода. І не такія вырашалі.




**Мікалай Халезін**

Драматург, кіраўнік «Свабоднага тэатра».

## КДБ вярнуў Лябедзьку грошы — «без працэнтаў і прабачэнняў»

**Дзесяць тысяч даляраў** у палітыка канфіскавалі яшчэ 19 снежня 2010.

29 сакавіка старшыню АГП Анатоля Лябедзьку запрасілі ў КДБ. Каб атрымаць канфіскаваныя ў снежні 2010 года грошы — каля $10 000. Дагэтуль палітык беспаспяхова спрабаваў вярнуць іх і нават падрыхтаваў заяву ў Мінгарвыканам на пікетаванне будынка КДБ. Увесь гэты час ягоныя заявы цыркулявалі паміж Следчым камітэтам і Камітэтам дзяржбяспекі.

«Пры перадачы грошай мяне запэўнілі, што з купюрамі ў мяне не ўзнікне ніякіх праблем. Там сядзелі такія мілавідныя жанчыны, а адзін мужчына спрабаваў здымаць працэс вяртання грошай на відэа. Я патлумачыў, што гэта не кіно, і ён сышоў», — расказаў палітык карэспандэнту «НН».

На развітанне Лябедзька пажартаваў, ці набеглі за гэты час працэнты з ягонай сумы. Але не атрымаў ні працэнтаў, ні прабачэнняў.

**Сямён Печанко**

**Сцісла**

### Бялкоўскі: Беразоўскі два гады нелегальна жыў у Беларусі

«Некалькі дзён таму памёр мой сябар Барыс Беразоўскі, і цяпер я магу расказаць, што ён два гады супрацоўнічаў з Лукашэнкам і той быў вельмі зацікаўлены ў дапамозе Беразоўскага менавіта ў барацьбе з Масквой і Пуціным. Барыс Беразоўскі нават жыў нелегальна ў Беларусі на працягу двух гадоў. Не заўсёды, але час ад часу», — расказаў палітолаг Бялкоўскі ў інтэрв'ю ўкраінскаму агенцтву УНІАН.

### Вягера на пенсіі

Лукашэнка вызваліў Віктара Вягеру ад пасады першага намесніка старшыні КДБ. Прычынай названы ўзрост.

### Дэпартамент гісторыі ЕГУ ўзначаліў прафесар Каўбаска

Пра гэта гаворыцца ў адмысловым загадзе, які падпісаў рэктар ЕГУ Анатоль Міхайлаў. Замяніў Аляксандр Каўбаска звольненага прафесара Паўла Церашковіча.

**ЗП**

# Паміж кватэрай і хатай


«Сонечны» каля Курапат.

## Што ўяўляюць сабой **пасёлкі таўнхаусаў** пад Мінскам?

Дыскусію наконт таго, дзе жыць камфортней — у кватэры ці ў прыватным доме, можна працягваць бясконца. У многіх краінах ёсць для тых, хто дагэтуль не можа вызначыцца, існуе і прамежкавы варыянт — таўнхаус. Гэта двух- ці трохпавярховы дом, які складаецца з некалькіх шматузроўневых кватэр з ізаляваным уваходам і агульнымі бакавымі сценамі. Да жылля прыкладаецца і маленькі кавалак зямлі.

Пад Мінскам будаўніцтва першых таўнхаусаў пачалося з дзясятак гадоў таму, аднак ніводнага цалкам завершанага праекта дагэтуль няма. «Наша Ніва» адсачыла, якія прапановы ёсць на рынку цяпер.

### «Сонечны» — ад $160 тысяч

Гэты пасёлак знаходзіцца на поўначы сталіцы, зусім побач з Курапатамі, але тэрытарыяльна належыць да Мінскага раёна.

«Сонечны» пачалі будаваць у далёкім 2003. Канца-краю не відаць нават на гарызонце. Першая лінія таўнхаусаў ужо здадзеная і нават часткова заселеная. Астатнія гаспадары марна чакаюць сваіх дамоў. Побач з таўнхаусамі тым часам будуюцца і шматкватэрныя дамы.

Забудоўшчык — група кампаній «Арэса-Сэрвіс» будаўнічага мільянера Сяргея Карэнькі — не спяшаецца і корміць кліентаў абяцанкамі. Квадратны метр таўнхауса каштуе $700—800. Аднак забудоўшчык не цураецца браць грошы за падвал па тым жа цэнніку. У выніку набягае $160 тысяч за двухузроўневы (+падвал) таўнхаус плошчай 223 $м^2$ ці $205 тысяч за трохузроўневы, плошчай 290 $м^2$. Жыллё абяцаюць здаць пад канец года, аднак тэрміны выглядаюць сумнеўнымі.

«Сонечны» праектаваўся як аўтаномны пасёлак, аднак сваёй інфраструктурай ён можа пахваліцца толькі на паперы. Садок, школа, медцэнтр, крамы, аптэкі і рэстараны ды іншыя перавагі гарадскога жыцця, можа, і з'явяцца, але няхутка. Пакуль жа існуюць гандлёва-забаўляльны цэнтр «Экспабел» з гіпермаркетам «Бігз» пад бокам. Да яго 500 м, калі ісці напрасткі па полі, альбо 2 км, калі ехаць на машыне.

Забудоўшчык называе адной з пераваг «Сонечнага» выдатную экалогію, але не трэба забывацца пра блізкасць з кальцавой дарогай і невялікі хімічны завод, адкрыты нядаўна ў суседнім Дроздаве.

### «Дабрадзеева» — ад $152 тысяч

Пасёлак Тарасава з некалькімі лініямі таўнхаусаў адносіцца да Ждановіцкага сельсавета. Гэта заходні выезд з Мінска і літаральна 1 км ад кальцавой дарогі.

Тут справы рухаюцца нашмат хутчэй, прынамсі, многія дамы заселеныя. І хоць жыльцы наракаюць на брак — напрыклад, электраправодка ў таўнхаусах не вытрымлівае высокага напружання, пасёлак паўнавартасна функцыянуе.


«Талісман» на ўскрайку Бараўлянаў.


«Дабрадзеева» — гэта на ўездзе ў Тарасава.

**Плюсы і мінусы таўнхаусаў**

+ Экалагічнасць у параўнанні з горадам
+ Танней за будаўніцтва катэджа
+ Наяўнасць лапіка ўласнай зямлі
+ Наяўнасць гаража
+ Высокі сацыяльны статус суседзяў
- Неразвітая інфраструктура
- Маленькі ўчастак зямлі
- Дарагое тэхабслугоўванне
- «Залежнасць» ад суседзяў
- Нізкая гукаізаляцыя праз існаванне супольных сцен



«Мар'ліва Кантры Клаб» па літоўскім праекце.



**Замарожанае будаўніцтва**

Яшчэ адзін катэджны пасёлак з таўнхаусамі будаваўся пад Заслаўем. Ягоная будаўнічая гатоўнасць некалькі гадоў таму складала каля 80%, аднак праект так і не быў скончаны. Забудоўшчык, кампанія «Мінсквадбуд», спрабавала прадаць яго хоць каму. Прапаноўвалася нават перабудаваць жылыя дамы пад турыстычную базу ці інтэрнаты, ды ўсё марна.

Дамы складаюцца з трох двухузроўневых таўнхаусаў са свабоднай планіроўкай плошчай ад 145 $м^2$ да 210 $м^2$. Квадратны метр у іх каштуе $1050—1200.

### «Мар'ліва Кантры Клаб» — $182 тысячы

Свае таўнхаусы запланаваныя і ў элітным пасёлку газавікоў Мар'ліва, што за дзясятак кіламетраў ад Мінска ў лагойскім кірунку. Тут на вуліцы Ясеневай будуецца восем таўнхаусаў. Пакуль што дарабляецца першы з іх і закладаецца падмурак другога.

Разынка праекта — невялікая плошча двухузроўневага таўнхаўса, усяго 140 $м^2$. Затое квадратны метр каштуе дорага, $1300.

Архітэктурны праект падрыхтаваны літоўцамі, і выгляд сапраўды вылучае «Мар'ліва Кантры Клаб» сярод канкурэнтаў.

### «Талісман» — ад $212 тысяч

Не самы раскручаны праект узводзіцца на ўскрайку Бараўлянаў — 4 км ад Мінска. Аднак рухаецца будоўля значна лепш, чым у канкурэнтаў.

Праўда, гэтыя трохузроўневыя таўнхаусы складана назваць архітэктурна арыгінальнымі. Квадратны метр тут каштуе $900. Можна выбраць з двух відаў таўнхаусаў — па 235 $м^2$ і 273 $м^2$. Улетку мусіць быць здадзены другі комплекс дамоў.

Ягор Марціновіч

## Сцісла

### Акцыі Мінскага завода пеністых вінаў будуць прадавацца зноў

Праз Беларускую валютна-фондавую біржу можна будзе набыць 75 тысяч акцый, нераспрададзеных падчас леташняга «народнага IPO» завода. Тады кожная акцыя каштавала 171 тысячу рублёў, а цяпер будзе — 238 тысяч рублёў. Найбуйнейшымі акцыянерамі завода з'яўляюцца дзяржава (больш за 80% акцый) і кампанія «Трайпл» мільянера Юрыя Чыжа (12,5%).

### Другая авіякампанія Беларусі збанкрутавала

Прыватная авіякампанія з Віцебска «Вітавія» ліквідуецца, а два самалёты, сабраныя ў Чэхіі для Беларусі, прададзеныя іншым замоўцам. Праект рэгіянальных пералётаў праваліўся, так і не пачаўшыся.

### Прадаём менш, чым купляем

У лютым сальда замежнага гандлю склала мінус $238 мільёнаў. Гэта істотна горш за студзень, калі сальда было на ўзроўні мінус $158,8 мільёна, але лепш за апошнія месяцы 2012 года.

### Тарыфная стаўка першага разраду вырасла на 4%

Раней яна складала 240 тысяч рублёў, цяпер — 250 тысяч. Ад тарыфнай стаўкі залежаць заробкі бюджэтнікаў.

ЯМ

# Як выхоўваюць дзяцей у Польшчы

Уявіце сабе, што пасля нараджэння дзіцяці дзяржава не дае ні капейкі дапамогі. Піша **Дзмітрый Гурневіч**.


Аўтар матэрыялу разам з жонкай Юляй і сынам Максам.

**Дзмітрый Гурневіч**
журналіст «Белсата» і Польскага радыё. Вырас у Налібаках (Валожынскі раён Мінскай вобласці). Бацька двух сыноў — Макса і Янкі. Жыве ў Варшаве.

Вы нарадзілі трэцяга і ідзяце па свой заслужаны льготны крэдыт, а вам дулю. Нарадзілі пятага і хочаце пазмагацца за кватэру, а вашую заяву нават разглядаць не хочуць. Хочаце запісаць дзіця ў садок — амаль нерэальна, а калі і ўдаецца, то рыхтуйцеся да касмічных выдаткаў. У вашага дзіцяці тэмпература 42 градусы? Не званіце ў хуткую, да вас наўрад ці прыедуць. Witamy w Polsce.

У еўрапейскім рэйтынгу сацыяльнай сямейнай палітыкі Польшча знаходзіцца на перадапошнім месцы перад Балгарыяй. Паводле прагнозу Еўрастата, дэмаграфічная перспектыва палякаў на наступныя 40 гадоў — адна з найгоршых у Еўрасаюзе. 2013 год урад краіны абʼявіў Годам сямʼі і... прыняў бюджэт, у якім выдаткі на падтрымку семʼяў — найменшыя ў ЕС. Дык як жа бацькі гадуюць і выхоўваюць сваіх дзяцей у краіне з найгоршай сямейнай палітыкай у Еўропе?

### Падрыхтоўка да родаў

Полька нараджае першае дзіця ў 28 гадоў. Але ўсё часцей рашэнне пра прыход на свет нашчадка прымаецца пасля трыццаці. Бацькі хочуць стабільна стаяць на нагах, атрымаць досвед працы, «пакаштаваць» маладога жыцця, займець уласны куток (пераважна ў крэдыт). Бясспрэчны плюс «позняга» бацькоўства — больш свядомы падыход да выхавання дзяцей, мінус — рызыка ўскладненняў падчас родаў альбо адмова ад цяжарнасці.

Праўда, за апошнія 10 гадоў адбылося пераасэнсаванне ролі жанчыны-маці ў грамадстве. Цяжарнасць у Польшчы зрабілася моднай. Велізарны станоўчы ўплыў на перамены робяць недзяржаўныя арганізацыі, фонды, якія прасоўваюць адказнае бацькоўства, вучаць будучых мамаў і татаў сучасным метадам выхавання.

Моднымі сталі курсы для бацькоў. Будучыя мамы і таты гатовыя плаціць больш як 100 даляраў за некалькі заняткаў, каб атрымаць перадавыя веды наконт родаў і выхавання. Тыя, хто не ў стане заплаціць такую суму, могуць скарыстацца паслугамі арганізацый нон-профіт.

Дарэчы, аборты ў Польшчы забароненыя, кантрацэптывы можна набыць толькі па рэцэпце. Спробы палітыкаў змяніць гэта не давалі плёну. У Польшчы вялікую ролю адыгрывае Касцёл, і нават урады левага і ліберальнага кірункаў не ішлі далей за антыклерыкальную рыторыку.

### Роды

У 1980-х і пачатку 1990-х цяжарных жанчын у Польшчы масава накіроўвалі ў аддзел «Паталогіі цяжарнасці». Падчас родаў меркаванне цяжарнай нікога з дактароў і акушэрак не цікавіла. А калі дзіця прыходзіла на свет, яго тут жа забіралі на абследаванне.

Сёння ўсё наадварот. Жанчын вельмі рэдка кладуць у бальніцы на так званае «захаванне». Зрэшты, ад любой прапановы доктара пацыентка можа адмовіцца, і рэдкі доктар будзе «вучыць яе жыццю».

Чэргаў у польскіх радзільнях няма. Калі нечакана выяўляецца, што ў найбліжэйшыя некалькі гадзін у бальніцы няма вольных месцаў, «хуткая» абавязаная завесці жанчыну ў іншую бальніцу, дзе яе без праблем прымуць. Але ўсё часцей жанчыны загадзя дамаўляюцца з акушэркамі і плануюць роды да драбязы. Паслугі акушэркі пачынаюцца ад 100 даляраў і заканчваюцца некалькімі тысячамі. Гэта гарантуе высакаякаснае абслугоўванне і адсутнасць стрэсу. Акушэрка не адыходзіць ад цяжарнай, пачынаючы з прыезду ў бальніцу і да выпіскі. Існуе рынак эксклюзіўных акушэрак. Іх паслугі каштуюць каля 3 тысяч даляраў, але, нягледзячы на высокую цану, магчымасць дамовіцца з такой акушэркай у Варшаве мяжуе з фантастыкай. Іх календары распісаныя на год наперад.

Большасць полек нараджае ў дзяржаўных радзільнях. Прыватныя акушэрскія клінікі на пальцах можна пералічыць, а плата за роды складае там каля 5 тысяч даляраў. Зрэшты, усё часцей дзяржаўныя бальніцы мадэрнізуюць, і ўмовы ў іх не саступаюць прыватным: радзільная зала для адной асобы, палата на дзве асобы з асобным душам і туалетам.

Супольнымі родамі ў Польшчы мала каго здзівіш. Цікава, што ў Беларусі, каб трапіць у радзільную залу, трэба здаць шэраг аналізаў. У Польшчы дастаткова прыйсці за некалькі хвілін або падчас саміх родаў, памыць рукі з мылам — і вы ўдзельнік аднаго з найшчаслівейшых момантаў жыцця.

Дактары абавязаныя паведамляць будучай маме пра кожны свой крок, абследаванне, кожны ўкол і яго магчымыя наступствы. Пярэчыць доктару і спрачацца з ім — нармальная зʼява. Пасля таго як дзіця прыйшло на свет, ні доктар, ні медсёстры не маюць права забіраць яго ў маці.

Альтэрнатывай родам у бальніцы робяцца роды дома. Лічбы пакуль сціплыя — каля 200 родаў за год, але гэтая лічба штогод напалову павялічваецца. Пакінуць бальніцу маці і дзіця могуць на трэція суткі пасля родаў.

Для тых, у каго ёсць сацыяльная страхоўка, роды бясплатныя (93% людзей карту страхоўкі маюць). Неграмадзянін без страхоўкі мусіць раскашэліцца — роды ў такіх выпадках каштуюць больш за тысячу еўра.

### Першая дапамога дзяржавы

Пастаяннай грашовай дапамогі семʼям з малымі дзецьмі, як у Францыі, скандынаўскіх краінах, і нават у Беларусі, у Польшчы няма. Да мінулага года за кожнае народжанае дзіця бацькі атрымлівалі ад дзяржавы аднаразовую выплату 300 даляраў. Але ад 1 студзеня яе адмянілі. Цяпер на гэтыя сродкі могуць прэтэндаваць толькі самыя бедныя грамадзяне.

Дэкрэтны адпачынак доўжыцца 1 год (нядаўна было паўгода). Жанчына атрымлівае штомесяц 80% заробку (пры ўмове, што яна ўладкаваная на стаўку). Можна абраць 6-месячны варыянт са 100% заробку. Пасля 14-га тыдня жанчына мае права замяніцца дэкрэтным з мужам. Закон дазваляе заставацца ў выхавальніцкім адпачынку да трох гадоў, але за свой кошт. Аднак тут закон не гарантуе, што пасля вяртання на працу жанчына зможа працаваць далей. Вельмі часта працадаўцы адмаўляюцца чакаць вяртання жанчыны.

**Дэкрэтны адпачынак доўжыцца 1 год. Жанчына ў гэты час атрымлівае 80% заробку**

Але дэкрэтныя выплаты ў Польшчы паспяхова замяняюць падатковыя льготы. Чым больш дзяцей і чым менш зарабляюць бацькі, тым большую суму вяртае падаткаплатніку дзяржава. Сямʼя з двума дзецьмі можа разлічваць на вяртанне штогод па 550 еўра! У суме гэта выходзіць нашмат больш, чым беларускія дэкрэтныя.

### Медыцынскае абслугоўванне

Дзяржаўная сістэма аховы здароўя ў Польшчы — самае слабае месца. Каб трапіць да педыятра ў дзяржаўную паліклініку, даводзіцца чакаць некалькі дзён. Да дактароў-спецыялістаў чэргі стаяць ажно некалькі месяцаў. Нават у прыватных медцэнтрах прыёмаў у алерголагаў, ларынголагаў і г.д. трэба чакаць некалькі тыдняў. Хоць прыём у прыватнага доктара-спецыяліста каштуе больш за 30 даляраў.

Хуткая дапамога ў Польшчы прыязджае толькі ў выключных выпадках — каб рэанімаваць чалавека. На святы наша сямʼя захварэла на грып. Жонка з тэмпературай 40 градусаў карміла грудное дзіця. Хуткая адмовілася прыехаць.

Сітуацыю ратуюць прыватныя дактары. Цэны пачынаюцца ад 120 злотых і сягаюць 200. Праўда, падчас калядных святаў знайсці такога доктара ў 2-мільённай Варшаве было праблематычна. Адзіны доктар, які пагадзіўся наведаць нашу сямʼю, дзе хварэлі 4 чалавекі, прапанаваў цану — 250 злотых за агляд адной асобы.

Асартымент лекаў у аптэках багаты, цэны на шмат якія прэпараты меншыя, чым у Беларусі. Многія лекі, якія ў Беларусі прадаюцца свабодна, у польскіх аптэках можна купіць выключна па рэцэпце, напрыклад, антыбіётыкі. Дарэчы, дактары выпісваюць антыбіётыкі толькі ў выключных сітуацыях.

### Садкі-школы

У 90-тысячным варшаўскім раёне, дзе мы жывём, у садках ёсць толькі 150 месцаў для дзяцей трох гадоў. Месячная аплата ў такім садку каштуе больш за 100 даляраў. Трапіць у дзяржаўныя садкі ў Польшчы могуць толькі шчасліўцы. У дзяржаўных яслях у Варшаве — усяго 4300 месцаў.

Затое як грыбы растуць прыватныя садкі і яслі. Цэны там вагаюцца ад 150 да 400 даляраў за месяц. Знаёмыя, якія мелі магчымасць параўнаць дзяржаўныя і прыватныя, кажуць, што якасць выхавання і адукацыі ў прыватных у разы лепшая. Пачынаючы ад танцаў і ангельскай мовы і заканчваючы каратэ і ёгай для 3-гадовых дзяцей.

### Сямʼя

Лепшага спосабу выхавання дзяцей, чым сямʼя, пакуль ніхто яшчэ не прыдумаў. Нягледзячы на тое, што сямейная палітыка польскай дзяржавы ніякая, сямʼя для палякаў — найвышэйшая каштоўнасць (так лічаць 80%). Магчыма, і таму, што яны разумеюць: калі не яны самі, то ніхто пра лёс іх дзяцей асабліва не паклапоціцца.

Калі я ўпершыню прыехаў у Польшчу, адразу кінуліся ў вочы партнёрскія адносіны паміж мужам і жонкай, трапяткое, а часам, можа, і празмерна мяккае стаўленне да дзяцей. На іх тут вельмі рэдка крычаць, а пляскач ці штурханіна ў публічным месцы нерэальныя. Мяне ў свой час моцна ўразіла, што бацькі размаўляюць з дзецьмі як з роўнымі, не хочучы іх пакрыўдзіць, паважаючы іх пункт гледжання.

У маім маладым раёне часцей можна сустрэць тату з вазком, чым маму. У чарзе да педыятра мужчын не менш, чым жанчын. Прыблізна пароўну абавязкі дзеляцца і дома. Мадэль патрыярхальнай сямʼі паволі размываецца, на яе месца прыходзіць ключавое для польскай гісторыі слова — салідарнасць.

Цяпер у Польшчы — свабода і бурны эканамічны рост. Магчымасцяў для выбару — мора. Тым не менш, большасць маладых палякаў разумеюць, што дзеці — самае галоўнае ў жыцці.

# Справа выкладчыкаў

Працяг са старонкі 1.

Праз два дні адкрыты ліст да выкладчыкаў універсітэта апублікаваў ужо дэ-факта былы калега, прафесар Вячаслаў Швед. Напрыканцы сакавіка ў яго скончыўся кантракт, паводле якога ён працаваў загадчыкам кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму. Кантракт не працягнулі, а 1 красавіка Рада ўніверсітэта не абрала яго на пасаду прафесара па конкурсе.

«Паводле ўніверсітэцкіх правілаў, выкладчык, які не прайшоў на пасаду прафесара па конкурсе, аўтаматычна звальняецца з працы. Я ведаю, што буду звольнены абавязкова, гэта пытанне часу», — кажа сп.Швед.

Такім чынам, услед за дацэнтам Андрэем Чарнякевічам, звольненым у верасні мінулага года, Швед і Кузьмініч папоўнілі спіс звольненых выкладчыкаў ГрДУ. Усе яны — аўтары кнігі «Гродназнаўства» (глядзіце №№35—36 «НН» за верасень 2012).

У пачатку сакавіка кіраўнік Гродзеншчыны Сямён Шапіра прызнаў, што асабіста загадаў звольніць Чарнякевіча. «Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжою. За чые грошы? — абураўся ён. — Не, каб да мяне прыйсці і пагаварыць!»

Прафесар Швед у гутарцы з карэспандэнтам «НН» пацвердзіў, што Шапіра сур'ёзна ўзяўся за апальных выкладчыкаў. «У сваім універсітэце і ў Гродне ўвогуле я нічога не даб'юся. Ёсць загад, і ён выконваецца вельмі жорстка. Не возьмуць нават дворнікам».

Ён пакуль не мае варыянтаў працаўладкавання. «Мушу ўсё абдумаць, абмеркаваць».

**Сямён Печанко**

## Адкрыты ліст прафесара Вячаслава Шведа



**Вячаслаў Швед**

Нарадзіўся ў 1956 у Гродне. Абараніў кандыдацкую ў 27 гадоў на тэму «Развіццё гандлю ў Беларусі ў часы крызісу феадалізму». Тэма доктарскай працы — «Грамадска-палітычнае жыццё Беларусі ў канцы XVIII—пачатку XIX стагоддзя». Ад 1982 бесперапынна працаваў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце. За час працы ніколі не меў спагнанняў. Наадварот, неаднаразова быў адзначаны ганаровымі граматамі. Летась узнагароджаны медалём «За заслугі перад універсітэтам».

Шаноўныя калегі!

У канцы сакавіка 2013 скончыўся мой кантракт на пасадзе загадчыка кафедры і мне прапанавалі перайсці на пасаду прафесара. Я прайшоў усе патрэбныя працэдуры. Конкурсная камісія, прааналізаваўшы маю працу за апошнія 5 гадоў, адзінагалосна рэкамендавала маю кандыдатуру да ўдзелу ў конкурсе на Радзе ўніверсітэта.

1 красавіка адбылося галасаванне. Вынікі яго (30 — «за», 41 — «супраць») відавочна сфальсіфікаваныя.

Так галасаваць людзі, якія мяне добра ведаюць, не маглі. Лічу, што ніякіх падстаў для такога выніку не было, бо за чарговыя 5 гадоў працы мной было надрукавана 28 навуковых і 3 навукова-метадычныя працы (у тым ліку з грыфам Мінадукацыі). Я кірую дзяржбюджэтнай тэмай «Турыстычная ацэнка помнікаў гісторыі і культуры Панямоння». Удзельнічаў у некалькіх камерцыйных тэмах. Дапамог гарвыканкаму і ўніверсітэту атрымаць міжнародныя праекты, фінансаванне якіх ужо пачалося. Папулярызую гісторыю Гродзеншчыны і яе турыстычныя рэсурсы.

Я працаваў з Вамі звыш 30 гадоў. За гэты час я прайшоў шлях ад асістэнта да загадчыка кафедры, абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Па маёй ініцыятыве была створана кафедра турызму, а затым і факультэт турызму і сэрвісу,

**Маё звальненне з'яўляецца палітычным рашэннем — помстай за выдадзеную кнігу «Гродназнаўства»**

на якім цяпер адныя з самых вялікіх конкурсаў сярод абітурыентаў.

Кафедра ў 2012 дала прыбытак універсітэту на суму 286 млн руб. Дзякуючы маёй ідэі, універсітэт удзельнічае ў праекце праграмы «Транспамежнае супрацоўніцтва «Польшча–Беларусь–Украіна — 2007–2013» — «Павышэнне прывабнасці транспамежнага рэгіёна шляхам уключэння этнакультурных рэсурсаў у турыстычную дзейнасць (акронім — Падарожжа ў этнаказку)».

За 30 гадоў працы я маю наступныя навуковыя дасягненні: публікацыяў — 287, сярод іх 4 манаграфіі, 10 кніг, 5 навучальных дапаможнікаў.

А таму ўпэўнены, што маё звальненне з'яўляецца палітычным рашэннем — помстай за выда-дзеную кнігу «Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада». Гэта кніга была напісана па маёй ідэі, я стварыў калектыў аўтараў, кіраваў ім, напісаў больш за палову кнігі, рэдагаваў яе.

Кніга была напісана па просьбе настаўнікаў Гродна, якія працавалі са школьнікамі на факультатыве «Гродназнаўства». Курс быў уведзены рашэннем сесіі гарсавета. Выйшаў двума выданнямі ў Гродзенскім універсітэце пасля двухгадовых хаджэнняў у абл-выканкам, які так і не знайшоў грошай на выданне. Затым толькі было здзейснена трэцяе выданне ў Вроцлаве, у друкарні Польскай акадэміі навук.

Абвінавачванні аўтараў у падпольным выданні такім чынам беспадстаўныя. Падкрэсліваю, што ў Польшчы выдадзена кніга, а не падручнік, у чым таксама абвінавачваюць аўтараў. Мы таксама мелі права выбраць храналагічны перыяд гісторыі Горадні, пра які і напісалі тэкст, — да 1994 , што ставяць нам у віну.

Паважаныя калегі, я не прашу Вашай дапамогі. Я хачу растлумачыць сваю пазіцыю і каб Вы ведалі, што я заўсёды пісаў свае творы, абапіраючыся на гістарычныя факты. За што сярод сваіх калег-гісторыкаў заслужыў прызнанне глыбокага і аб'ектыўнага гісторыка.

## Адкрыты ліст выкладчыка кафедры тэорыі дзяржавы і права Ігара Кузьмініча

да старшыні Гродзенскага аблвыканкама **Сямёна Шапіры.**



**Ігар Кузьмініч**

нарадзіўся ў 1972 у вёсцы Баранавічы пад Гроднам. У 1994 скончыў факультэт правазнаўства Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Ад 1994 да 1997 навучаўся ў аспірантуры на кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права. Пасля заканчэння вучобы ў аспірантуры працаваў выкладчыкам гэтай кафедры. Свае дысцыпліны выкладаў па-беларуску. Да верасня 2012 — намеснік дэкана па практычнай падрыхтоўцы і прафарыентацыі. Аўтар аўдыёкнігі «Казкі Жыцця Мікіткі і Данілка» (2010).

Пачынаючы з вясны-восені 2012 стаўленне Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы да мяне змянілася непазнавальна. Момант, калі я пачуў абвінавачванні ў свой адрас з вуснаў адміністрацыі ўніверсітэта за свае погляды, за сваю грамадскую пазіцыю, якія адлюстраваны ў маіх казках і эсэ, стаў вызначальным для мяне.

Я адмыслова звярнуўся да Вас як да старшыні Гродзенскага аблвыканкама. Па-першае, Вы з'яўляецеся кіраўніком рэгіянальнай улады і здольныя

**Запалоханы выкладчык не можа адчуваць сябе годным, а што такі чалавек можа даць студэнтам?**

паўплываць на працэсы, якія адбываюцца ва ўніверсітэце, па-другое, менавіта Вас называлі ініцыятарам зменаў у стаўленні да асобных выкладчыкаў нашага ўніверсітэта.

Не ведаю, ці гэта праўда, і нават не хочацца ў гэта верыць. Але, паколькі асноўны пік «размоваў» і ціску на мяне прыйшоўся на апошнія тыдні перад галасаваннем на выбарах 2012, думаю, што, як мінімум, аблвыканкам даваў згоду, каб такія размовы з выкладчыкамі вяліся.

На маю думку, падзеі восені 2012 — гэта акцыя запалохвання выкладчыкаў і адміністрацыі, сігнал: будзеце публічна выказваць свае думкі, якія разыходзяцца з чыімсьці «правільным меркаваннем», будзеце друкавацца ў незалежных выданнях, выдавацца за мяжой, актыўнічаць у інтэрнэце — вас звольняць.

Выкладчык ВНУ, які баіцца за сябе, баіцца за свае словы — не здолее ў навукова-даследчай працы раскрыць цалкам свой творчы патэнцыял, бо будзе ўвесь час азірацца.

Больш за тое — запалоханы выкладчык не можа адчуваць сябе годным, а што такі чалавек можа даць студэнтам?

Вышэйшая школа гадуе эліту беларускага грамадства. Якую эліту можа выхаваць загнаны, як той воўк, абкладзены чырвонымі сцяжкамі і крыкамі паляўнічых, выкладчык? Ён можа выхаваць затурканага, няўпэўненага ў сабе баязліўца, не здольнага не толькі самастойна прымаць рашэнні, але і нават думаць самастойна.

А як жа місія нашага ўніверсітэта? Якую карысць асобе, грамадству і дзяржаве можа прынесці запалоханы выкладчык? Якую карысць грамадству і дзяржаве можа прынесці выпускнік, які не з'яўляецца асобай, здольнай прымаць рашэнні?

Ці азначае гэта, што мы пачынаем арыентавацца на выхаванне зацюканай эліты?

Тое, што адбываецца ў Гродзенскім універсітэце, баюся, не з'яўляецца лакальнай праблемай, а тычыцца ўсёй сучаснай беларускай сістэмы вышэйшай адукацыі.

Асноўнай прычынай бачу адсутнасць акадэмічных свабод у нашым універсітэце і ў вышэйшай адукацыі ў цэлым. Адсутнасць рэальнага самакіравання вышэйшай школы стварае ўмовы для ўмяшання звонку ў навукова-даследчы і навучальны працэсы людзей, якія не разумеюць сутнасці і асаблівасцей гэтых з'яваў.

За ўсе мае выказванні ў інтэрнэце, за мае погляды цiснулі не толькі на мяне, але і на маіх калег па працы. Гэта асаблівасць нашай сучаснай адміністратыўнай машыны «прэсаваць» начальніка, каб ён «прэсаваў» сваіх падначаленых і наводзіў «парадак» ці выпраўляў недахопы. За амаль 20 гадоў працы на юрыдычным факультэце я нікому з выкладчыкаў ці з адміністрацыі не зрабіў анiякага паскудства. І цяпер не лічу патрэбным паводзіць сябе так, каб акрамя мяне цярпеў яшчэ нехта іншы.

Я разумею, што я мог бы як мінімум спакойна працягваць працаваць да скончання майго кантракта вясной 2014 года. Больш за тое, шмат хто з маіх знаёмых і калег схіляюцца да таго, што гэта найлепшы спосаб паводзінаў у маёй сітуацыі.

На іх думку, «нешта можа змяніцца» ці неяк усё ўладкуецца само сабой. Гэта нармальная беларуская пазіцыя — пачакаць і паглядзець што будзе...

На маю думку, нічога не зменіцца, калі мы самі, кожны з нас не пачнём рабіць тое, што, на нашу думку, мы рабіць павінны. Толькі так можна дасягнуць зменаў да лепшага.

Менавіта таму прашу: паспрыяць спыненню ціску на выкладчыкаў і адміністрацыю ўніверсітэта; разгледзець мой сыход формай ПРАТЭСТУ супраць незаконнага пераследу выкладчыкаў за іх грамадскія погляды і правa свабодна ад свайго імя выказваць свае меркаванні.

*(Друкуецца са скаротамі — «НН»)*

# Следчы па справе Мікалая Аўтуховіча перабраўся ў ЗША

**Мікалай Аліхвер** вёў першую справу Аўтуховіча — у 2003—2005 гадах, калі яго судзілі за нібыта эканамічнае злачынства.

Жыццёвую траекторыю следчага Аліхвера адсачыла рэжысёрка Вольга Мікалайчык. Яна адшукала ў сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі» амерыканскія фота Аліхвера з подпісам «Я шчаслівы». Жыве Аліхвер у горадзе Атланта (штат Джорджыя) на поўдні ЗША.

Для маладога следчага Упраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці справа былога афганца, прадпрымальніка Аўтуховіча, была адной з першых. Улады распачалі яе пасля таго, як Аўтуховіч стаў кандыдатам ад апазіцыі па Ваўкавыскай акрузе на парламенцкіх выбарах ў 2004. Па звестках незалежных сацыёлагаў, ён упэўнена перамагаў.

Паводле непацверджанай інфармацыі, Аліхвер выйграў Green Card.



Палітвязень Мікалай Аўтуховіч цяпер знаходзіцца ў Гродзенскай турме. Паводле другой крымінальнай справы яго абвінавацілі ў захоўванні пяці патронаў ад стрэльбы. На волю Аўтуховіч мусіць выйсці ў красавіку наступнага года.

«Раз Аліхвер цяпер шчаслівы, значыць, яго не мучаць згрызоты сумлення», — наракае спн. Мікалайчык. Пасля распаўсюду інфармацыі старонка Аліхвера з сацыяльнай сеткі «Аднакласнікі» знікла.

**Мікола Бугай**

# Папа Францішак абмыў ногі непаўналетнім вязням

Абрад абмывання ног звычайна праходзіў з удзелам біскупаў, новы Папа правёў яго **з крымінальнікамі**.



Пантыфік абмыў ногі дванаццаці зняволеным турмы Казаль-дэль-Марма розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Сярод іх былі две дзяўчыны. Характэрна, што раней жанчыны не дапускаліся да ўдзелу ў рытуале абмывання ног Папам.

Цягам свайго царкоўнага служэння кардынал Берголіа нязменна заклікаў да клопату пра бедных, слабых і хворых і даказваў неабходнасць гэтага на ўласным прыкладзе: так, у 2001 у адным з хоспісаў ён абмываў і цалаваў ногі 12 хворым на СНІД людзям.

Абрад абмывання ног у Чысты чацвер натхнёны адным з евангельскіх паданняў. Паводле яго, Ісус перад здрадай і ўкрыжаваннем абмыў ногі апосталам.

У мінулую нядзелю каталікі свету адзначылі Вялікдзень уваскрасення Хрыстовага.

**Алег Гардзіенка**

### Апытанне на nn.by

**Па-Вашаму, Папу Францішку ўдасца змяніць царкву?**




# Памёр акцёр Валерый Залатухін

Яму быў **71 год**.

Залатухін памёр раніцай 30 сакавіка ў бальніцы. Пра тое, што расійскі акцёр знаходзіцца ў рэанімацыі, стала вядома 5 сакавіка. Тады ж ён пакінуў пасаду мастацкага кіраўніка Тэатра на Таганцы (Масква). Пасля таго як Залатухіну паставілі дыягназ «пухліна мозгу», яго змясцілі ў Расійскі цэнтр рэнтгенарадыялогіі, дзе ён знаходзіўся аж да сваёй смерці.

Валерый Залатухін нарадзіўся ў 1941 у вёсцы Хуткі Выток, што ў Алтайскім краі. Дэбютаваў у кіно ў фільме Уладзіміра Назарава «Пакет» пра прыгоды чырвонаармейца Трафімава.

Зняўся ў такіх фільмах, як «Гаспадар тайгі» (1969, участковы Сярожкін), «Бумбараш»(1972), «Сказ пра тое, як цар Пётр арапа жаніў «(1976).

Залатухін здымаўся шмат у беларускім кіно. І не толькі ў фільмах кшталту «У жніўні 44-га». У 90-я Залатухін, як і многія іншыя расійскія зоркі, граў у фільме «Птушкі без гнёздаў», прысвечаны жыццю Ларысы Геніюш. У «Трох талерах», паводле твора Андрэя Федарэнкі, быў у ролі дырэктара школы.

Пахаваюць акцёра ў роднай вёсцы на Алтаі.

**Зміцер Панкавец**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# Пахавальная на сябе, альбо Дзень дурня

Зазірнуў у настольны каляндар, а там пра 1 красавіка, акрамя таго, што панядзелак, анічога.

Увесь вольны свет адзначае Дзень дурня. А тут, бач ты, толькі панядзелак, цяжкі дзень...

Між тым, што ні дзень у нас, то 1 красавіка. За колькі гадоў, праўда, прызвычаіліся да маны, мала хто ўжо верыць у тое, што, маўляў, «спіна запэцкана крэйдай»... Шкада. Бо які ж гэта Дзень дурня, калі ўжо няма дурняў верыць ані ў лічбы галасоў і заробкаў, ані ў Мясніковіча з Пракаповічам, ані ў Пуціна з Сінгапурам, ані ў яднанне з братэрскім венесуэльскім народам на падставе «мошчаў Чавэса», ані ў самаакупнасць тэатраў і цалкам усёй краіны разам з адраджэннем сяла...

Які ж гэта Дзень дурня, калі народ пазбаўлены радасці верыць у абяцанкі?!

Які ж гэта Дзень дурня, калі дурняў ужо няма?!

Мо яшчэ хто верыць у яднанне з братэрскім расійскім народам, дык гэта ж 2 красавіка... Хаця...

Трэба ж было так здарыцца, што гэтыя два дні — дурня і яднання народаў — аказаліся побач.

Не паспелі ў Крамлі пазбіраць асколкі ад фужэраў, што бразнулі аб падлогу, як ужо калаціўся ад радасці тэлетайп у мінскім прадстаўніцтве буйной маскоўскай газеты і заходзіліся ад нецярплівасці тэлефоны: тэрмінова... у нумар... водгук Васіля Быкава... рэпартаж з мітынгаў... «Што, няма мітынгаў?» — «Ёсць. Якраз цяпер... ля Палаца спорту... мітынг пратэсту...» — «Пратэсту?!»...

Ну, ці не дурні? Паверылі ў міждзяржаўны розыгрыш, хаця і на другі красавіцкі дзень.

А што тычыцца першага, то былі, яшчэ якія былі розыгрышы!

Была святая вера ў 1 красавіка, у дзень цудоўных падманаў.

Вось, напрыклад, працаваў у Доме друку стары журналіст Ю. Праваяваў вайну, а напрыканцы апынуўся ў штабных пісарах, што складаюць спісы загінулых і дасылаюць іх родным журботныя пахавальныя. Складаў-складаў, дасылаў-дасылаў, а 1 красавіка 1945 вырашыў адпачыць ад свайго сумнага занятку — даслаў жонцы пахавальную на самога сябе: «загінуў смерцю храбрых... пахаваны...» Што загінуў, сказала жонка, магу паверыць, а вось што смерцю храбрых... Як яна там дабіралася да Аўстрыі, але ж дабралася: ну, дзе ён тут у вас пахаваны?..

Як жа трэба добра ведаць таго, хто маніць, каб ужо зусім у дурні не трапіць!

Як трапіў напачатку 1970-х светлай памяці Сеня Рубін, адказны сакратар колішняй «Знамёнкі».

Не ведаю, ці ёсць у сёняшніх рэдакцыях адказныя сакратары, а тады — ого-го, першы, па сутнасці, чалавек! Вось сядзіць, так бы мовіць, Сеня на бягучым нумары і атрымлівае па тэлетайпе загад аж з ЦК партыі: перадрукаваць з газеты «Известия» велізарны, на два падвалы, артыкул пра несупынную барацьбу з пачварным сіянізмам. Загад нечаканы, бо дасюль перадрукоўкі такога кшталту цягнулі на сабе газеты партыйныя. Да таго ж, трэба ламаць нумар, з якім Сеня працаваў ці не ўвесь папярэдні дзень і апошнюю ноч. Карацей кажучы, пачухаў Сеня патыліцу і вырашыў удакладніць. «Советская Белоруссия»? Не. «Звязда»? Не... І раптам здагадаўся: сёння ж 1 красавіка!

**Які ж гэта Дзень дурня, калі дурняў ужо няма?!** »

Ён быў трошкі заіклівы, наш Сеня, асабліва калі хваляваўся. А паспрабуй не хвалявацца на цэкоўскім кіліме! «Д-дык жа ж п-п-першага кра-кра-савіка...» — вымаўляў Сеня праз мацюкі і абвінавачванні ў ідэалагічнай дыверсіі. Але ж і тое праўда, што час змяніўся: замест кулі ў патыліцу — мацюкі, замест лагера — хуткі інфаркт...

А недзе праз тыдзень ці два ўсю рэдакцыю выклікалі ў ЦК камсамола. Справаздачу прымаў новы сакратар па прапагандзе, вылучэнец з правінцыі. Ён сядзеў, склаўшы на грудзях кароткія рукі, час ад часу пакручваючы ў бок Чаніна, нашага галоўнага рэдактара, галаву з высокай густавалосай прычоскай, ад чаго меў жаночападобны выгляд. «Няправільная ў вас кадравая палітыка, Віталь Змітравіч, — раптам перапыніў сваё манументальнае маўчанне наваспечаны куратар. — Ці не занадта ў беларускай газеце яўрэяў?!»

Чанін моўчкі пазбіраў свае паперы і, не гаворачы ані слова, накіраваўся да выхаду. За ім паднялася і пайшла ўся рэдакцыя. Усе пайшлі — і яўрэі, і не яўрэі, і партыйныя, і беспартыйныя...

Памёр Чанін.

І той сакратар памёр. Паспеў, праўда, зрабіць партыйную кар'еру, быў заўважаны яшчэ ў некаторых паскудствах, пасля чаго прыладзіўся да лукашэнкаўскай абоймы.

І сіянізм, калі не памёр, дык сціпла прыхаваўся ў сваіх палесцінах. Разам з Сенем Рубіным, які таксама ў тых палесцінах заўчасна памёр. Ад надарванага сэрца...

А я вось думаю цяпер: хто ж насамрэч дурань — той, хто маніць, ці той, хто верыць? А мо абодва?

Аб адным толькі марыцца 1 красавіка, на Дзень дурня, у панядзелак, цяжкі дзень: каб Усявышні, калі атрымае ад нас пахавальную на саміх сябе, не паверыў аніводнаму яе слову.

# Астраном Малышчыц: Навука і рэлігія дапаўняюць адна адну

Віктар Малышчыц — астраном, фатограф. Працуе настаўнікам у мінскай гімназіі №29 і выкладчыкам у БДУ. Яго вучні — пераможцы рэспубліканскіх і ўдзельнікі міжнародных алімпіяд па астраноміі. А яго ўнікальны відэаролік «Беларусь: у абдымках зорак» за два месяцы набраў больш за 200 тысяч праглядаў на Ютубе.

**Віктар Малышчыц**

астраном, фатограф. Нарадзіўся ў 1985 і да 7 гадоў жыў у Рызе (Латвія). Школьныя гады і юнацтва прайшлі ў Глыбокім. Пасля школы паступіў на фізічны факультэт БДУ. Скончыў магістратуру і аспірантуру БДУ.

Працуе настаўнікам у гімназіі №29 г.Мінска і выкладчыкам у БДУ. Жанаты. З жонкай Настассяй гадуюць 3-гадовую Ганульку.



Віктар Малышчыц з жонкай Настассяй і дачкой Ганулькай.

### Пра настаўніцкае жыццё

Я ўсё жыццё цікавіўся астраноміяй. На жаль, у нашай краіне на навуковым узроўні гэта амаль не запатрабавана, бо астраномія — навука, якая патрабуе велізарных грашовых укладанняў.

Безумоўна, праца настаўніка вельмі цяжкая. Настаўнікаў столькі паліваюць кепскімі словамі

## Настаўнікі насамрэч — гэта святыя людзі

на форумах і ў размовах, але насамрэч гэта святыя людзі і вельмі адданыя сваёй справе. У нашых школах большасць настаўнікаў працуе усё ж з пакліканнія.

Цяпер я не магу сказаць, што я паўнавартасны настаўнік. Звычайныя ўрокі я ўжо не вяду — палічыў гэта не зусім удзячнай справай. Ужо шмат гадоў займаюся толькі факультатывам, куды прыходзяць самыя-самыя цікаўныя, у якіх вочы гараць ад зорак.

### Пра якасць адукацыі

Гледзячы на сучасных вучняў, я бачу, што ўзровень нашай школы істотна ўпаў. Я не ведаю, што на гэта паўплывала. Ці тое, што школа трымаецца толькі на настаўніках-энтузіястах, якія пачалі ўжо адыходзіць, а новыя не прыходзяць? Вы ж ведаеце, з якімі баламі паступаюць у педагагічныя ўніверсітэты. Ці гэта паўплывалі нашы гвалтоўныя рэформы, якія былі праведзеныя па ўказцы зверху.

Якасная адукацыя ў першую чаргу залежыць ад якасных настаўнікаў. Якасныя настаўнікі залежаць ад таго, хто паступае ў нашы ВНУ. А тыя, хто паступае, канечне, глядзяць на тое, якія ўмовы працы, якія заробкі. Агулам скажу, што настаўнік у сярэднестатыстычнай школе зарабляе зусім няшмат. Настаўнікі на заробкі, безумоўна, скардзяцца. Адзіны спосаб нармальна ў школе зарабляць — гэта мець паўтары-дзве стаўкі. Але я па сабе ведаю, што, маючы такую нагрузку, якасна працаваць настаўнік не зможа.

### Пра тое, што можна змяніць у школе

Безумоўна, мы цяпер не можам імгненна павысіць заробкі ўсім настаўнікам. Але ўсю велізарную вертыкаль чынавенства, якая ёсць у школе, усе гэтыя паперкі, усе гэтыя загады, бясконцыя незразумелыя конкурсы, нейкія парады, якія адцягваюць настаўніка ад працы, можа было б прыбраць нават цяпер.

### Пра «абстрактных рускіх»

Для мяне беларуская мова не з'яўляецца дэкларацыяй чагосьці, сваіх палітычных пазіцый. Не з'яўляецца, як для падлеткаў, нейкім пратэстам супраць грамадскасці. Проста некалі я задумаўся над тым, хто мы. Мы ж кажам, што мы беларусы. Але калі расказваюць анекдоты пра «рускіх», калі ўзгадваюць пра нейкіх абстрактных рускіх, многія з нас нават атаясамліваюць сябе з імі. Я пачаў задумвацца, чым мы адрозніваемся ад усходніх братоў ці ад нашых суседніх народаў. І бачу, што адрозненняў насамрэч не так і шмат. Галоўныя з іх — гэта якраз наша мова, культура, гісторыя.

### Пра сям'ю і хрысціянскую мараль

Асноўная крыніца маіх даходаў — гэта не выкладанне, гэта больш хобі і праца для душы. Цяпер я працую фатографам, і сям'ю кармлю фатаграфіяй.

З жонкай Насцяй мы пазнаёміліся падчас пілігрымкі ў Будслаў. Так што лічу, што наша сям'я асвечана яшчэ і ласкай Маці Божай. Мы жывём згодна са святым пісаннем, згодна з тымі законамі, што даў Бог. Мы ўсёй сям'ёй наведваем як мінімум штонядзелю касцёл. Хацелі б таксама сваіх дзетак гадаваць у хрысціянскай традыцыі, як яны падрастуць.

### Пра навуку і рэлігію

Многія кажуць, што вера і навука не могуць суіснаваць, а мне здаецца, што яны дапаўняюць адна адну. Навука можа расказаць нават пра першыя секунды Вялікага выбуху, але ніколі не адкажа на пытанне, а навошта ўвогуле гэты сусвет быў створаны і навошта ён. Проста гэта не ў яе кампетэнцыі.

Адно з галоўных пытанняў, якое задае сабе чалавек на працягу жыцця, нават калі кажа, што апроч «чаркі і скваркі» нічога не патрэбна, — што ўяўляе з сябе свет, у якім мы жывём? Астраномія пашырае нашы межы ўяўлення далей за межы зямлі. Мы пачынаем разумець не толькі, што ўяўляе сабой «я» на гэтай зямлі, а што ўяўляе сабой наша планета ва ўсім бяскрайнім космасе.

### Пра сваю «кроплю ў акіяне»

Мне заўсёды хацелася паказаць людзям розныя аспекты нашай Беларусі, якая яна прыгожая, цудоўная, родная. І ўзнікла думка, а чаму б не паказаць хараство нашай прыроды, а таксама архітэктуры пад зорным небам?

Чалавек, які гэта ўбачыць, адчуе гонар за сваю краіну і ўбачыць яе ў зусім незвычайным ракурсе, што, можа, падштурхне яго да вывучэння і нашай культуры, гісторыі. Бо, убачыўшы пэўныя храмы, замкі, чалавек можа зацікавіцца (і цікавяцца!): дзе гэта знята?

Таму ўзнікла ідэя зрабіць ролік, які мог бы паказаць прыгажосць нашай краіны не для замежнікаў, не для турыстаў, а для нас саміх. Канечне, адным маленькім, 2-хвілінным ролікам не прымусіш беларусаў аддана любіць сваю Бацькаўшчыну. Але лічу, што маленькую-маленькую кропельку ў гэты акіян зрабіць удалося.

**Аксана Рудовіч**



**«Беларусь у абдымках зорак»**

У мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47) праходзіць выстава фатаграфій Віктара Малышчыца «Беларусь у абдымках зорак». На гэтай выставе Беларусь — на фоне Космасу, пад бяскрайнім начным небам, у абдымках зорак. 12 красавіка (18.00) у музеі адбудзецца творчая сустрэча з Віктарам Малышчыцам.

Зорнае неба над Гервяцкім касцёлам (Астравецкі раён).

# Ой, красавіца, я б да цябе вечарком зайшоў!

З **пачутага.**

Ішоў Пятро з граблямі. Паслізнуўся і на тыя граблі ўпаў. Войкнуў, мацюкнуўся, а пасля ўзняўся і прамовіў:

— Во, абышлося, а маглі ж і зламацца.

* * *

Рэкламны плакат чарговых цудадзейных лекаў ад усяго друкуе чарговую гісторыю шчаслівага выздараўлення: «Пяць месяцаў таму ў мяне адняліся ногі, прычыны не ведаю, бо да ўрача не звяртаўся...»

* * *

Камплімент па-сваяцку: «Ну, ты, Іван, і раскаравеў за гэты год! Аж да кабана стаў падобны».

* * *

Прастакаваты ў абыходжанні мужчына заляцаецца да новай каляжанкі, гучна крычыць на ўвесь аўтобус:

— Ой, якая ты красавіца, я б да цябе вечарком зайшоў!

— Гэта вы мне? — спачатку спалохана дзівіцца жанчына, пасля прамаўляе ўжо ласкавей. — Ну, і зайшлі б, я б вас пакарміла. «Кіцікэт» у мяне ёсць!

* * *

Напярэдадні 8 Сакавіка ў чаканні выплаты пенсіі на пошце стаяць у чарзе пенсіянеры. Зухаваты дзядзька жартуе з бабулькамі:

— Бабкі, хадзіце хутчэй дадому і раскручвайце сваіх дзядоў, хай кветкі вам купяць,падарункі!

— Дык мы ім ужо самі ўсё купілем: і кветкі, і падарункі, — адгукаецца самая баявая.

— На 23 лютага?

— Не, на Радаўніцу.

* * *

«Мне ў жыцці не шанцуе, — спавядаецца падпіты незнаёмец у тралейбусе. — Вярнуўся ў родны горад, думаў маці з бацькам на вакзале сустрэнуць, а сустрэла міліцыя».

* * *

З ліста пенсіянеркі ў рэдакцыю часопіса «Сад і агарод»:

«Вось ужо сем гадоў запар і ў снег, і ў дождж, і ў гразь важу з калонкі ваду на саматробным вазку. Зрабіце сабе такі і вы, скарыстаўшы колы ад міні-трактара. Яшчэ вашы ўнукі будуць цягаць на ім ваду з калонкі ў любое надвор'е».

* * *

У жывым эфіры віншавальнай праграмы на Беларускім радыё зачытваюць SMS:

— Віншуем шаноўную Ніну Макараўну з днём нараджэння. Зычым здароўя і доўгіх гадоў жыцця. Сябры з ансамбля «Радаўніца».

— Вясёлыя ў вас сябры, Ніна Макараўна.

**Таццяна Барысік, Магілёў**

# Кіруючы апарат разбух

2013 год абвешчаны годам беражлівасці. Дык вось у Беларусі ёсць 118 раёнаў, плюс абласныя цэнтры. У многіх з іх няма буйных прамысловых прадпрыемстваў, яны малыя тэрытарыяльна, колькасць насельніцтва не перавышае 20—25 тысяч чалавек, а кіруючы апарат разбух да небывалых памераў.

Чыноўнікі маюць дарагія аўтамабілі, штат... Відавочна, што адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел краіны з савецкіх часоў сёння ўжо састарэў.

Ёсць шмат прапаноў, але ўлада не слухае грамадзян, а толькі робіць выгляд. Шкада...

**Міхась Спірыдовіч, Іванец (Валожынскі раён)**

# Мая простая беларуская мара

Я мару, каб у кожнай вёсцы быў **усюдыход і снегаачышчальнік**, а пры іх — два цвярозыя кіроўцы.

Такіх няма? Знізім планку: амаль што цвярозых. Каб снегаачышчальнік чысціў дарогі, а ўсюдыход развозіў па бальніцах людзей. Каб сацыяльныя работнікі прыходзілі да старых з лекамі і хлебам. Каб паштальёны без рыдлёвак маглі адчыніць весніцы. І каб не паміралі людзі ў сарцірах-шпакоўнях, замецеными снегам навекі.

Год беражлівасці? Беражыце людзей! І абвясціце сваё XXI стагоддзе Стагоддзем каналізацыі. Чалавек XXI стагоддзя не павінен спраўляць патрэбу па-дзікунску, у драўляных развалюхах ад той яшчэ вайны.

**Таццяна Караліна, Мінск**

# Алесь Белы
## Каліноўскаму

Ён ненавідзеў беларускі народ,
А таму пайшоў за яго на эшафот.
Ён ненавідзеў беларускую мову,
А таму напісаў на ёй свае апошнія словы.
Ён быў бальшавіцкіх поглядаў падлейшых,
А таму заклікаў на свабоду тутэйшых.
Расейцы кажуць: «Ён быў польскім тэрарыстам!»,
А палякі — што літоўскім нацыяналістам.
Косці расцягнула груганнё,
Дзе была кроў — расце быллё.
Невядома, кім быў ён,
Мо насамрэч быў маскалём?

*Верш, напісаны не Алесем Белым — гісторыкам і бізнэсоўцам, не Алесем Белым — паэтам з Баранавіч. Гэта нейкі іншы невядомы нам Алесь Белы.*

# Беларуская глыбіня. **Стасевіч, святы антысаветчык**

Піша **Павел Севярынец.**

*Хіба не ведаеце, што святыя будуць судзіць свет? І да Карынцянаў 6:2.*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Значыць, вы нічога не чулі пра святога Лявонція Стасевіча?..

Беларусы-беларусы, хрысціянскі мы народ... Як гэта выйшла, што нават пасынкі саўка і дзеці перабудовы, зацятыя антысаветчыкі, дагэтуль не ведаюць пра вялікіх, хто згараў у самай глыбіні імперыі, каб хоць трошкі падсвяціць бацькам выйсце? Тыя, чыя штодзённая пяшчота ў рэшце рэшт дала магчымасць Станіславу Шушкевічу ў адзін цудоўны заснежаны момант паставіць у Віскулях свой знакаміты знішчальны росчырк?.. Тых, чыя веліч выявіцца з часам, калі нам прыйдзе пара рассыпацца ў прах і ўгнойваць беларускую зямлю сабою?... Чыё жыццё — адказ на пытанне, што рабіць сярод страху, хлусні, безнадзейнасці, а лёс — жывая, пакутлівая і агаломшвальная беларуская місія...

Героі вечнасці чакаюць на нябёсах. Толькі адтуль відаць, наколькі дробязныя нашыя высілкі пачалавечаму вылучыцца і наколькі велічныя дробязі, каторымі мы так звыкла і настойліва грэбуем.

Леў, будучы Лявонцій Стасевіч, нарадзіўся ў Тарнаградзе на Падляшшы, непадалёк ад Белавежскай пушчы, за стагоддзе ад Віскулёў. З сялянскай сям'і, юны, поўны сілаў, беларускі Леў аднойчы крадком увайшоў у Яблачынскі праваслаўны манастыр, быў пастрыжаны ў манахі пад імем Лявонція і ў час Першай сусветнай быў эвакуяваны ў Маскву, быў накіраваны, дарэчы, патрыярхам Ціханам у разрабаваны бальшавікамі Суздаль.

Першы раз айца Лявонція арыштавалі ў 1930-м за звон. «Захацеў Госпада звонам праславіць — а звон ужо забаронены быў. Доўга званіў. Спускаюся са званіцы — а мяне ўжо з кайданкамі сустракаюць».

Адбыў 3 гады, але як непапраўны святар вынырнуў толькі каўтнуць волі. Царкву ўжо апанавалі застрашаныя чэкістамі «абнаўленцы» ды сергіяне — і ўпартасць антысаветскіх бацюшак і манахаў старога гарту была для іх невыноснай. Даносы... Следства... і ў Караганду.

Ужо на пероне некалькі арыштаваных святароў запялі хорам малітву. У пакаранне вагоны з асуджанымі на некалькі марозных дзён загналі ў тупік. Было шмат замерзлых — і толькі ў вагоне а.Лявонція, які заахвочваў усю ноч маліцца з паклонамі, не загінуў ніхто.

Лагернае начальства ўзялося а.Лявонція перавыхоўваць. У ноч на Вялікдзень, напрыклад, а.Стасевіча прывязвалі да вяроўкі і апускалі галавой у прыбіральню. Падымалі і крычалі:

— Выракаешся?!

А ён ім:

— Хрыстос уваскрос, хлопцы...

Выйшаў, вярнуўся ў Іванаўскую вобласць. Прызначаны ў аддалены прыход, адкрыта саромію тых святароў, што дагаджалі ўладзе болей, чым прыхаджанам. І, вядома, дачакаўся трэцяга арышту — за тое, што «тлумачыў рэлігійныя пісанні ў антысавецкім духу». Далі 10 гадоў — у Комі.

Ужо 70-гадовым старым айцец Лявонцій выбраўся з ГУЛага ў сяло Міхайлаўскае ўсё той жа Іванаўскай вобласці. Накіраваны ў храм Міхаіла Арханёла, пераможцы д'ябла, штодня адпраўляў набажэнствы і пешшу абыходзіў усю ваколіцу з трэбамі — спавядаў, прычашчаў, сабораваў... Жыў па-манаску, у пакойчыку, дзе стаялі адно стары жалезны ложак, стол і некалькі зэдлікаў для гасцей. На ананімныя даносы, што сыпаліся з усіх бакоў і на кожны з іх трэба было абавязкова адказваць, айцец Лявонцій пісаў: «Слава Госпаду Богу! Жыў і жыву з братамі ў міры, усім і ўсімі задаволены. Госпад ім суддзя. Скарга не адпавядае праўдзе. Я ні на каго не злуюся».

Калі яго, знямоглага, шкадавалі прыхаджане — «Бацюшка, ты ж зусім хворы» — ён адказваў: «У Бога хваробаў няма, гэта грахі нашы хварэюць».

Калі ён спаў, людзі не бачылі: адпрацаваўшы дзень, ночу маліўся. Штодня на памяць прачытваў увесь Псалтыр.

Тым, хто прызнаваўся, што не можа адмовіцца ад нейкага грэху, айцец Лявонцій прапаноўваў патрымаць далонь над свечкай, і калі спаведнік з пякучым сіпеннем убіраў руку, бацюшка здзіўляўся: у вечным полымі гарэць збіраешся, а свечкі баішся.

Савецкія бацюшкі лагерніка травілі. А людзі сцякаліся ў такой колькасці, што ўладам даваўся адмяніць бліжэйшы прыпынак чыгункі — ехалі да яго...

Відавочцы згадваюць ашаламляльныя прароцтвы айца Лявонція — і пра лёс ягоных ганіцеляў, і пра смерць патрыярха Алексія, і пра крыніцу, што праб'ецца на вясковых могілках з-пад ягонага ўласнага пахавання. Перад смерцю за апошняй літургіяй айцец Лявонцій радасна падымаў угору аслабелыя рукі: «Да Бога ідзём... да Бога ідзём!»

Дарогі беларусаў Стасевічаў за апошнія сто гадоў разбрыліся па ўсім свеце. З гэтага роду — і знакаміты амерыканскі скрыпач, дырыжор Павел Стасевіч, і савецкі і расейскі мастак Аляксандр Стасевіч, і футбаліст мінскага «Дынама» ды зборнай Беларусі Ігар Стасевіч.

Але з сучаснікаў найбліжэй да роду айца Лявонція Сяргей Стасевіч з той жа беларускай глыбіні. З-пад Івацэвічаў. Грэка-каталіцкі святар, што скончыў папскі ўніверсітэт святога Тамаша Аквінскага (Анжэлікум) у Рыме, магістар кананічнага права, рэканструюе «Марыйны дом» (Marian House) у Лондане ды будуе там царкву, пераймаючы справу айца Аляксандра Надсана.

Два святары-беларусы аднаго кораня, адзін — у глыбіні Расеі, другі — у глыбіні Захаду аддаюць свае жыцці іншым. Як сама Беларусь, распятая на крыжы — ад таго месца, дзе сонца ўзыходзіць, да таго, дзе яно хаваецца ў цемры. Перабіраеш лёсы, бліскучыя ды невядомыя імёны і думаеш: найболып разбуральным выклікам для змрочных рэжымаў урэшце аказваецца не зброя, палітыка ці культура, а ціхая асабістая святасць.

Святасць — гэта калі ты цалкам аддаеш усе сілы, час, волю Богу і людзям, не пакідаючы анічога сабе. Такая святасць перасоўвае горы і перамяшчае краіны — з мінулага ў будучыню.

Сцежка Стасевіча на першы пагляд непрыкметная, след ідзе ціхенька, часам пераходзіць на шэпт — але потым высвятляецца, што гісторыя прайшла менавіта гэтым шляхам.

Бо гэтым шляхам на зямлі штодня праходзіць Ісус.

*Куплін*

**Стасевіча прывязвалі да вяроўкі і апускалі галавой у туалет. Падымалі і крычалі:**
**— Выракаешся?!**
**А ён ім:**
**— Хрыстос уваскрос, хлопцы...**

# «Ёй бы яшчэ нараджаць...»

Падчас выбуху на спіртзаводзе ў Лынтупах загінула **26-гадовая**.

Трагедыя здарылася на Пастаўшчыне 27 сакавіка. Пацярпелі шасцёра работнікаў. А маладая бухгалтарка памерла ў аперацыйнай праз некалькі гадзін пасля здарэння.

«Я ішла з абеду на працу і пачула такі глухі выбух. У нас ёсць высахлае возера, у якім яшчэ з вайны знаходзяць снарады. І здараецца, што іх узрываюць. Вось увагі ніхто і не надаў. Але чуваць было далёка — я знаходзілася за пару кіламетраў ад завода. Пасля толькі даведалася пра ўсё», — прыгадвае жыхарка пасёлка Ліза.

Выбухнула ёмістасць са спіртам, якога там быць не павінна: той цэх знаходзіўся на прафілактычным рамонце, і спірт з абсталявання мусіў быць зліты ды заменены на ваду. Адбылося ж не па інструкцыі. Пасля выбуху спірт разліўся і загарэўся. У памяшканні нікога не было. А ўсе ахвяры — траўмаваныя кавалкамі бетону, што паразлятаўся ад выбуху.

Вось такім кавалкам зачапіла і 26-гадовую Жэню. Яна прыехала на завод па размеркаванні: скончыла Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання. А пасля вырашыла там і застацца.

«Яна не з Лынтупаў — з Магілёўскай вобласці. Гады 4—5 мо і адпрацавала ўжо, — расказала Ліза. — Яна была незамужняя. У Лынтупах дом здымала. Спачатку, як прыехала, яны ўтрох жылі. Пасля адна дзяўчына замуж выйшла. Другая (яна таксама пры выбуху пацярпела) да хлопца жыць пераехала».

«Ёй бы яшчэ нараджаць...» — напісаў у сацыяльных сетках нехта са знаёмых Жэні. Не паспела. «Я летам заходзіла да яе і ўбачыла фотаздымак — яна з маладым чалавекам. Тады акурат ён у войску быў — Жэня чакала. Але нешта здарылася, і разышліся. Нават не ведаю, ці быў у яе нехта цяпер».

Крымінальную справу завялі за парушэнне правілаў вытворча-тэхнічнай дысцыпліны. Але бацькам дачку не верне нават самае суровае пакаранне для вінаватых. Ды ці вінаватыя толькі тыя, хто парушыў інструкцыі? Гэта ж не першы падобны выпадак у далёка не новых цэхах састарэлых заводаў. Колькі яшчэ маладых жыццяў павінна забраць вытворчасць, каб мадэрнізацыя прыйшла ў глыбінку?

**Сяргей Макарэвіч**



## Вышук



26-гадовы мінчук здымаў кватэру на суткі і ў той жа дзень пераздаваў яе. Пры гэтым браў перадаплату і нават пісаў распіскі за атрыманыя грошы. Пакуль выяўлена шэсць эпізодаў. Па падазрэнні расшукваюць **Нікуліна Аляксея Аляксеевіча**.
Калі нехта ведае месцазнаходжанне падазраванага альбо пацярпеў ад яго, тэлефануйце ў Савецкае РУУС Мінска. (017) 292-02-02.



**Кліменка Вячаслаў Сяргеевіч** расшукваецца Астравецкім РАУСам па падазрэнні ў дачы хабару ў буйным памеры, здзейсненым групай па папярэдняй змове. Прыкметы: на выгляд 25 гадоў, валасы русыя, твар авальны, вочы блакітныя.
Хто валодае інфармацыяй пра падазраванага, просьба тэлефанаваць на: (01591) 2-15-34, (029) 344-66-29, (033) 348-83-73.



Лідскі РАУС шукае **Глебкіна Віталя Анатольевіча**, які ў ліпені 2012 выехаў на заробкі ў Расію. Да сёння яго месцазнаходжанне невядома. Прыкметы: на выгляд 50—55 гадоў, рост 175—180 см, сярэдняга целаскладу, валасы светла-русыя.
Каму вядома месцазнаходжанне зніклага, тэлефанаваць на (0154) 52-02-02.

# «Яна як зорачка была, такая ж яркая»

Медсястрычка загінула **на пешаходным пераходзе**.



23-гадовую Дарку збіў МАЗ 21 сакавіка. Трагедыя здарылася, калі дзяўчына пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе каля Чыгуначнага вакзала ў Маладзечне. Трапіла пад задняе кола грузавіка і загінула на месцы.

Крымінальная справа заведзена за парушэнне ПДР, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. Маладзечанцы адразу пачалі абурацца, што да сёння той нязручны пераход не зрабілі рэгуляваным. Маўляў, стварае праблемы і для пешаходаў, і для кіроўцаў.

Хто быў вінаваты ў гэтай сітуацыі, вызначыць суд. Але якое б ні было рашэнне, дзяўчыну ўжо не вярнеш. І праз два тыдні ў сацыяльных сетках сотні спачуванняў адпраўляюць яе сям'і. Дарка была адзіным дзіцём у бацькоў і маладой жонкай.

«Я яе моцна любіла і цяпер люблю! — узгадвае сяброўку Веранія. — Яна як зорачка была, такая ж яркая, усміхалася ўвесь час. Заўсёды магла выслухаць, падтрымаць. Моцна любіла прыколы розныя: мы нават падарункі адна адной на невялікія святы рабілі такія, каб пасмяяцца разам. А перад вялікімі святамі, дзесяці за месяц, ужо ўсялякія конкурсы з ёй рыхтавалі».

### Марыла пра сваё аўто

«У яе было шмат планаў, яна ўсё хацела паспрабаваць у жыцці. Не кожны можа пахваліцца такой энергічнасцю, такім аптымізмам. Нядаўна яна здала на правы — радавалася, казала: вось будзем разам ганяць. Не паспелі...» — прыцягвае Веранія.

У мужа быў мікрааўтобус. Але падумвалі, каб і для Дашы меншае аўто купіць. З Юрам яны пабраліся шлюбам 1 кастрычніка 2011. А разам былі са школьнай парты.

«З гэтага часу мой найлепшы сябар і сяброўка — гэта мой муж. Нездарма мы восем гадоў разам», — напісала за тыдзень да трагедыі Дар'я ў сацыяльных сетках.

### Стала медыкам, а магла пайсці ў тэатральны

«Яна працавала ў неўролага медсястрой. Яна любіла дапамагаць людзям і ніколі ў дапамозе не адмаўляла», — расказвае Веранія. У паліклініцы дзяўчына адпрацавала два гады па размеркаванні і вырашыла не сыходзіць.

Сяброўка Надзя вучылася з Даркай у школе. Кажа, што апошнія два гады тая захаплялася біялогіяй і хіміяй — мэтанакіравана рыхтавалася да паступлення ў медыцынскі каледж. А да таго яны два гады правучыліся ў тэатральным класе.

«Рыхтавалі міні-пастаноўкі — нам выкладалася акцёрскае майстэрства. Не прыпомню, якія ролі ў Дар'і былі, але запомнілася пастаноўка па Маякоўскім у Палацы культуры да Дня барацьбы з паленнем. У асноўным гэта былі дзіцячыя жартаўлівыя прадстаўленні для нашых аднагодкаў — 7—8 класаў», — расказвае Надзя.

...На пахаванні было шмат людзей. Родныя, калегі, сябры. Былі нават тыя, з кім дзяўчына не бачылася пасля вучобы, а некалькі дзяўчат прыехалі з іншых гарадоў на развітанне.

**СМ**

## Сціслa

### Сам сябе здаў

Дзяўчына была адна дома, калі пазванілі ў дамафон і папрасілі спусціцца за лістом. На лесвіцы два бугаі скруцілі яе і заштурхалі назад у кватэру. Ногі і рукі абматалі скотчам. Пад пагрозай гвалту 17-гадовая паказала, дзе ляжалі бацькоўскія 5 мільёнаў рублёў. Злачынцаў мо яшчэ доўга шукалі б, калі б адзін з іх не «папаліўся» на крадзяжы. Скраў тэлевізар і прадаў яго. Следчыя затрымалі хлопца праз два месяцы, а там і пра разбой даведаліся.

### Парэзаў сына без дай прычыны

У Мінску 10-гадовы школьнік дома знаходзіўся з бацькам, калі той нечакана ўдарыў сына нажом у жывот. І збег. Школьнік знайшоў яшчэ сілы патэлефанаваць маме. Яна і выклікала «хуткую». Бацьку знайшлі праз гадзіну ў суседнім квартале. Ён не змог патлумачыць свой учынак. Вядома, што на ўліку ў псіханеўралагічных і наркалагічных дыспансерах ён не стаіць.

### Чачэнцаў вярнулі ў Беларусь

Сям'я чачэнцаў — двое дарослых і пяці непаўналетніх дзяцей — ехала з нашай краіны ў Літву на адпачынак у Грэцыю. Аднак пры праверцы на мяжы высветлілася, што тыя не ўяўляюць, дзе знаходзіцца краіна элінаў. Літоўскія памежнікі палічылі, што сям'я збіраецца нелегальна застацца ў ЕС на ПМЖ. Тым больш, што чачэнцы не маглі патлумачыць і адкуль у іх візы. Дый і на сямёра сямейнікаў мелі толькі адзін чамадан.

### Арыштавалі за «мёртвыя душы»

Бухгалтарку аддзела адукацыі Светлагорскага райвыканкама падазраюць у крадзяжы 200 мільёнаў рублёў з бюджэту. Ад студзеня 2009 да снежня 2012 яна налічвала заробак тром «мёртвым душам», а затым сама атрымлівала за іх грошы. Махінацыі заўважыла кіраўніцтва аддзела адукацыі, пра што і паведаміла ў міліцыю. Больш за палову скрадзенай сумы бухгалтарка ўжо вярнула.

**КМ**

# Мая Камароўка

Успаміны пра Мінск 1950-х. Піша **Браніслаў Сармонт**.

**Заканчэнне. Пачатак у «НН» №11.**



**Сённяшняя плошча Якуба Коласа ў 1950-я.**

### «Чорная кошка»

Першыя пасляваенныя гады Камароўка славілася сваім крыміналітэтам, донарам якога быў тутэйшы базар. Не было дня, каб там не лавілі якога-небудзь злодзея. Кралі многа і паўсюль: на базарах, у крамах, у грамадскім транспарце. Адных вымушала красці звычка ці разбэшчанасць, другіх — галеча. З надыходам цемры горад выміраў, з'явіцца на цёмнай бязлюднай вуліцы было небяспечна — абрабуюць. Бандыты нахабна глуміліся з людзей. Наводзіла жах на абывацеля нейкая міфічная банда «Чорная кошка». Сярод белага дня «спецыялісты» віртуозна выразалі кішэні, жаночыя сумачкі. У дарослых вучыліся дзеці, і ў хуткім часе гэта стала сацыяльнай бядой — міліцыі клопату хапала. Безумоўна, усё гэта — рудыменты мінулай вайны і той сістэмы, якая знішчыла Храмы, адвярнула людзей ад Бога, мэтаскіравана Чалавека ператварала ў звычайную шэрасць, бязлікасць. Мільёны бязвінных савецкіх людзей прайшлі праз турмы і лагеры, што не магло не адбіцца на іх псіхіцы, на іх звычках.

### Мае «крымінальныя ўніверсітэты»

У школу паступіла мноства пераросткаў, якіх вайна пазбавіла магчымасці вучыцца. У трэцім класе са мной за адной партай сядзеў Лявон Др., па мянушцы Канёк. Ён быў гады на 4—5 старэйшы і нават меў медаль «За адвагу» (гранатай узарваў грузавік з паліцаямі). Лявон ужо заглядаўся на дзевак, і сядзець побач з салагам, вывучаць тычынку-песцік ці жыццё нейкай інфузорыі-туфелькі яму было нецікава. Яго больш вабіла рамантыка вуліцы, ён казаў, «прыгожае жыццё». Таму Канёк пастаянна адсутнічаў на ўроках і забягаў у школу больш хаваючыся ад міліцэйскай пагоні, чым дзеля атрымання ведаў.

Аднойчы Лявон угаварыў мяне збегчы з заняткаў, прывёў на базар і даў свой першы ўрок жыцця: ён лоўка «загаворваў зубы» бабцы-гандлярцы, а я тым часам павінен быў красці яе яблыкі. І хаця Лявон стараўся як мог, я ніяк не мог рашыцца ўзяць чужое. Напэўна, гандлярка адчула падман, бо стала больш пільна сачыць за мной. А злодзей, мяркую, дзейнічаў так недарэчна, што нават бабка не вытрывала: «Што, блазнота, хочацца ўкрасці?!» Я разгублена нешта прамармытаў у адказ і шчыра кіўнуў галавой. Тады бабка сказала проста і мудра: «Сынку! Красці — вялікі грэх. Ты лепш папрасі, людзі пастараюцца зразумець цябе», — і дала мне на дарогу прыгожы румяны штрыфель. Яблык той рэквізаваў і злопаў Канёк. На развітанне ён шчыра «падзякаваў» мне нагой ніжэй спіны і папярэдзіў, каб я яму больш на вочы не трапляў. Дзякуй Богу, на тым мае крымінальныя «ўніверсітэты» скончыліся.

### На футбол хадзілі з галубамі

Самай папулярнай дзіцячай забавай была маялка — кавалачак футра з квадратны сантыметр, да якога мацаваўся свінцовы альбо алавяны гузік. Задача была ў тым, каб як мага даўжэй падбіваць маялку нагой, не даючы ёй зваліцца на падлогу. Сярод хлопцаў былі чэмпіёны, якія віртуозна маглі падбіць яе хоць тысячу разоў любой нагой — хоць пяткай, хоць наском. Прыкладна такія практыкаванні вытвараюць футбалісты з мячом.

Гарадскія ўскраіны былі застаўлены хаткамі з агародамі-садкамі. Ледзь не пры кожнай хаце была галубятня, і гэтаму занятку хлопцы аддавалі ўвесь свой вольны час. Прэстыжным лічылася завабіць, злавіць суседскага галубка. Галубоў прыносілі ў школу, абменьвалі, прадавалі, выкрадалі. Часта ўзнікалі «разборкі». Заядлыя галубятнікі былі і сярод дарослых, бо гэта было звязана з ладнымі грашыма. Вялікі галубіны базар «Юбілейка» знаходзіўся ў цэнтры (цяпер на яго месцы — Дом моды па вуліцы Мельнікайце). Каштоўныя пароды галубоў завозілі з Прыбалтыкі, Украіны, Кубані. З галубамі хадзілі на святочныя дэманстрацыі, на вялікі футбол. На кожны забіты мінчукамі мяч выпускалася чарговая хмара птушак.

### Факстрот як буржуйская спакуса

Школы, як правіла, былі раздзельныя — мужчынскія і жаночыя. Старшакласнікі ладзілі вечарыны, запрашалі ў госці дзяўчат з суседніх школ, затым вярталі візіт. Юнакі ставіліся да дзяўчат з павагай, паводзілі сябе галантна, годна, немагчыма было пачуць брыдкае слова. Некаторыя хлопцы курылі, дзяўчаты — ні ў якім разе, бо гэта лічылася непрыстойным. А калі якая-небудзь жанчына курыла хаця б употай, на такую глядзелі з пагардай, як на разбэшчаную путану.

Я вучыўся ў 19-й беларускай мужчынскай сярэдняй школе імя Янкі Купалы. Нашы настаўнікі далі нам веды грунтоўныя, і выпускнікі 19-й без усялякіх рэпетытараў з лёгкасцю паступалі ў самыя прэстыжныя ВНУ краіны. Акрамя таго, настаўнікі аддавалі шмат часу, каб выхаваць нас людзьмі нацыянальна свядомымі, з пачуццём уласнай чалавечай годнасці.

Успамінаецца, як наш класны кіраўнік Вера Данілаўна Замах (між сабой мы яе ласкава звалі Верачка) прыносіла з дому сталовы сервіз і вучыла нас правілам свецкага этыкету: як паводзіць сябе за сталом, як правільна карыстацца нажом, відэльцам, сурвэткай, як слугаваць даме і г.д. Мы падрасталі з павагай да старэйшых і добра ведалі, што заўсёды трэба дапамагчы жанчыне, саступіць месца старому альбо калеку.

На восень 1954 намячалася аб'яднанне жаночых і мужчынскіх школ. Настаўнік фізкультуры Сямён Навумавіч Рольбін загадзя пачаў «пад язык» (магнітафонаў тады яшчэ не было) вучыць хлопцаў правільна танчыць. Паступова мы захапіліся і праз год сустрэлі дзяўчат падрыхтаванымі: пад радыёлу добра кружылі ў вальсе, умелі танцаваць бастон, польку, кракавяк, падэкатр, падэспань, падэграс і іншыя танцы мінулага стагоддзя.

У большасці школ вечарыны праходзілі пад прыглядам настаўнікаў і старэйшага піянерважатага. А моладзі хацелася танчыць сучаснае (пра рок-н-рол мы яшчэ не ведалі, а за бугі-вугі можна было вылецець са школы). Але нават такія сціплыя «буржуйскія» спакусы, як танга ці факстрот, нам дазваляліся за вечар толькі разок-другі, і то як узнагарода за добрыя паводзіны.

### Школа рыхтавала чэмпіёнаў без спартзалы

С.Н.Рольбін — неаднаразовы чэмпіён краіны па лыжных гонках. Франтавы разведчык, ён змог паставіць на лыжы ўсю школу — ад першага да апошняга класа. Нашай лыжнай камандзе не было роўных сярод аднагодкаў рэспублікі. Сталі майстрамі спорту і чэмпіёнамі Беларусі Васіль Вадзянаў, Жора Лакісаў, Міхал Маркоўскі, Генадзь Сачыўка, Яўген Мытнік.

Успамінаецца, як нас, яшчэ дапрызыўнікоў, выклікалі ў ваенкамат на медкамісію. Усе мы дзьмулі ў трубку спірометра, каб вызначыць аб'ём лёгкіх. Кволыя хлопцы, якія больш курылі, чым займаліся здароўем, выдзьмувалі 2—3 літры. Я не курыў, актыўна займаўся лыжамі і баскетболам, мой паказчык быў цудоўным: 6,7 л. Падышла чарга Мытніка. Яўген як дзьмухануў, дык поршань з апарата наогул вываліўся, таму што былі размечаны толькі на дзесяць літраў. Гэта вельмі ўразіла дактароў.

На ўсесаюзнай арэне па канькабежным спорце гонар Беларусі адстойваў майстар спорту Уладзімір Тышкевіч — мой шчыры сябар, з якім мы шмат гадоў сядзелі за адной партай. Аднакласнікі Барыс Прупус і Максім Брэгер сталі чэмпіёнамі Беларусі па боксе, Марат Муравіцкі — па класічнай барацьбе. Моцная была каманда гімнастаў, сярод якіх сусветнай зоркай ззяў алімпійскі чэмпіён Мікалай Мілігула. І пры гэтым наша школа не мела нават спартыўнай залы!

### «На Амерыку працуеш!»

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Кацярына Станіславаўна Нядзвецкая належала да кагорты старой беларускай інтэлігенцыі. Выпускніца Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, сяброўка Якуба Коласа і Зоські Верас, яна добра ведала Янку Купалу, сустракалася з братамі Луцкевічамі, была гарачай прыхільніцай і паслядоўніцай нашаніўскага Адраджэння.

У разгар халоднай вайны, адурманеныя савецкай прапагандай, мы падрасталі і шчыра верылі, што ўвесь дэмакратычны Захад з'яўляецца нашым ворагам, а самы галоўны сярод іх — заможная Амерыка. Кацярына Станіславаўна тонка выкарыстоўвала тую акалічнасць, робячы вымову чарговаму вучню, што не падрыхтаваўся да ўрокаў. Штосьці падобнае аднойчы здарылася і са мной.

З намі толькі-толькі пачалі вучыцца дзяўчаты. На ўроках стаяла нязвыклая цішыня. Мы сарамліва прыглядаліся

да сваіх суседак, таму да дошкі настаўніца выклікала самых смелых. Чамусьці выбар выпаў на мяне. Трэба было расказаць верш пра Сталіна.

Мы роднаму Сталіну ў песні
Любоў і падзяку прынеслі
З палёў беларускай зямлі,
І ясныя зоры, і чыстыя росы
У гэтыя песні ўплялі.
І смех дзетвары светлакудрай,
І прыказкі старасці мудрай,
І светлыя мары дзяўчат,
І ціхія нівы, і горад бурлівы
У гэтае песні гучаць.
І словы, што маці казала,
Як сына свайго спавівала:
Расці, мой сыночак, расці!
Выходзь, сінявокі,
На шлях на шырокі,
На сталінскі шлях у жыцці!

Верш я вучыў, калі нават сёння, праз паўвека яго памятаю. Але тады ці то ад сораму, ці то ад стрэсу я ніяк не мог яго ўспомніць. Пачырванеўшы, доўга ў роспачы стаяў перад класам, старанна разглядаючы свае чаравікі. Настаўніца спрабавала неяк падбадзёрыць, зварухнуць, але я ўparta маўчаў. Тады яна з болем і агідай сказала: «Вымушана табе, хлапчына, сёння паставіць кол. На Амерыку працуеш!» На пытанне кагосьці з класа, чаму на Амерыку, патлумачыла: «А каму вы патрэбны без ведаў? Хіба толькі нашым ворагам!»

## «Паўлінка» для Уладзіславы Францаўны

У дзясятым класе мы вывучалі творчасць Янкі Купалы, і Кацярына Станіславаўна прапанавала нам сваімі сіламі паставіць сцэну з «Паўлінкі». Мы былі якраз у такім веку, калі ўсе цяжкасці — што грэчка па калена. Работа закіпела. Размеркавалі ролі, мне дастаўся пан Быкоўскі.

Прэм’ера адбылася на Дзяды. На «Беларускую вечарыну» запрасілі ганаровых гасцей: Уладзіславу Францаўну Луцэвіч — жонку Янкі Купалы, народную артыстку СССР Ларысу Александроўскую, народную артыстку БССР Вольгу Галіну... Удзячная зала заходзілася з рогату, выбухала апладысментамі. Пра нас нават пісалі газеты. Я падкінуў ідэю: падрыхтаваць спектакль увесь цалкам. Цяпер у нас ужо быў сапраўдны прафесійны рэжысёр — Вольга Галіна. І 26 лютага 1957 на сцэне Тэатра юнага гледача сваёй «Паўлінкай» мы адкрывалі Рэспубліканскі тэатр школьніка!

## Дакаціліся да бугі-вугі

Аднойчы наша школа сабрала металалому найбольш у рэспубліцы, за што была прэміравана камплектам струнных інструментаў: гітары, балалайкі, мандаліны. Стыхійна ўзнік квартэт: Браніслаў Сармонт і Валянцін Фастовіч — мандаліны, Алег Тараканаў і Алег Элентух — гітары. Дзіцячае захапленне перарасло ў вялікую дружбу, якую мы пранеслі праз усё жыццё.

Мы гралі тады модныя песні, мелодыі з кінафільмаў. Нас запрашалі ў іншыя школы, клубы, Палац піянераў.

Аднойчы дырэктар школы — чалавек пануры, зацяты сталініст, які заўсёды хадзіў у гімнасцёрцы, галіфэ і хромавых рыпучых ботах, — выклікаў майго бацьку і павёў гаворку.

— Магу пацвердзіць: ваш хлопец — безумоўна, здольны, актыўны. Ён і спартовец, і ў аркестры грае, і ў спектаклі заняты... Але мяне турбуе яго незвычайны ўхіл. Магчыма нават адмоўны ўплыў на астатніх. Мяркуйце самі. Вось выходзяць на сцэну дзеткі і спяваюць: «Вижу чудное приволье — это родина моя» ці, скажам, «Эх, хорошо в стране советской жить!» А што мы чуем ад вашага хлопца... — тут дырэктар разгарнуў паперку, прабегся па ёй вачыма і працягваў. — А ад вашага хлопца чуецца нешта нам чужароднае. То песня індыйскага валацугі, то нейкія вар’яцкія румбы-шмумбы «Два сольдзі», то ўжо зусім буржуйская халера «Сан-Луі блюз». Так жа можна і да бугі-вугі дакаціцца!

Бедны наш дырэктар Васіль Паўлавіч! Адкуль яму было ведаць, што мы ўжо даўно «дакаціліся» і не бачылі ў тых бугі-вугі нічога дрэннага. Музыка як музыка — вясёлая, задорная, яна вельмі падабалася ўсім нашым маладым сябрам. Але людзі старэйшага пакалення, зацыкленыя на ідэалогіі, акрамя «Віхры варожыя веюць над намі», нічога не жадалі чуць і ўспрымаць. Калі наш квартэт выступаў на з’ездзе настаўнікаў з п’есай кампазітара Марацуці «Кубінская румба», дык нават слова «румба» выклікала алергію. П’еса сарамліва аб’яўлялася: «Кубінскі танец».



Залатагорскі касцёл яшчэ не быў захінуты гмахамі праспекта.

## Як «пясочылі» за капронавыя панчохі

Такая зашоранасць дарослых часта даводзіла да абсурду. У дзявятым класе з намі вучылася дзяўчынка Валя. Бацька Валі загінуў на фронце. Яна расла не па гадах сур’ёзнай, заўсёды хадзіла сціпла і акуратна апранутая. Сямнаццаць год — пара рамантыкі, пара кахання. Хто ў такія гады не імкнецца выглядаць прывабна? Магчыма і ў Валі ўзнікла свая сімпатыя, бо аднойчы на ўрокі яна з’явілася ў капронавых панчохах. Што тут пачалося! Дырэктар выклікаў у школу маці дзяўчыны, сабраў педнараду, каб прамыць мазгі сямнаццацігадовай паненцы. Памятаю, як на сходзе стомленая нялёгкім жыццём разгубленая маці бараніла дачку.

— Калі вы лічыце, што мая Валя зрабіла вялікае злачынства, судзіце яе. Толькі я вам павінна сказаць, што трое дзяцей выхоўваю адна. Працую кандуктаркай трамвая і на працу іду а пятай раніцы, вяртаюся, калі дзеці ўжо спяць. Таму ўся адказнасць па доме на Валі, а яна спраўляецца як след: і меншыя дагледжаны, і ў хаце парадак, і вучыцца нядрэнна. І наогул, я ганаруся табой — ведай гэта, мая дачушка! — звярнулася маці да залітай слязьмі Валі.

Што пачалося пасля такіх слоў! Сталіністы і верныя ім «падкаваныя» камсамольцы накінуліся нават на маці, а бедную дзяўчыну абразілі і зацюкалі да таго, што тая ў школу больш не вярнулася ні праз тыдзень, ні праз месяц, ні праз год.



Разборка старых дамоў у раёне «Камароўскіх вілаў», канец 1950-х.

**Браніслаў Сармонт**

Кампазітар, джазавы музыка. Нар. у 1939 у Мінску. У 1959—1962 вучыўся ў кансерваторыі, быў выключаны «за дыскрэдытацыю звання савецкага студэнта». У 1959—1971 граў у джаз-бэндзе «Зялёныя агні». Да 1971 года працаваў у Белдзяржфілармоніі, пасля — у Мурманскай філармоніі. Ад 1982 — кіраўнік аркестра мінскага завода імя Леніна, пасля выкладчык музычнай вучэльні ў Мінску. Сябра Саюза кампазітараў Беларусі.

**ФУТБОЛ**

**2 тур**

**7—8 красавіка пройдуць матчы чэмпіяната Беларусі.**
У нядзелю гуляюць:
«Дынама» (Мінск) — «Мінск»;
«Славія» (Мазыр) — БАТЭ (Барысаў);
«Белшына» (Бабруйск) — «Нёман» (Гродна).
У панядзелак сустрэнуцца:
«Дынама» (Брэст) — «Шахцёр» (Салігорск);
«Гомель» — «Нафтан» (Навапалацк);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дняпро» (Магілёў).

**ГАНДБОЛ**

**Беларусь — Румынія**

**7 красавіка ў Палацы спорту (пр.Пераможцаў,4)** адбудзецца адборачны матч да чэмпіяната Еўропы. Сустракаюцца Беларусь — Румынія. Пачатак а 15-й.

**КАНЦЭРТЫ**

**The Apples**

**5 красавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — rock'n'roll з гуртом The Apples.

**Cracow Duo**

**9 красавіка а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — канцэрт гурту Cracow Duo (Польшча). Ад самага пачатку сваёй дзейнасці гурт займаецца папулярызацыяй польскай музычнай культуры.

**Akute**

**12 красавіка ў 18.30 у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — гурт Akute з новай праграмай «Як на далоні».

# Супраць Нямеччыны і Славаччыны




PHOTO.BYMEDIA.NET

**5—6 красавіка ў рамках Еўрапейскага хакейнага выкліку** падужаюцца зборныя Беларусі і Германіі. Першая гульня адбудзецца ў Мінску, другая — у Салігорску. На «Мінск-Арэне» квіткі будуць каштаваць 20—30 тысяч, у Салігорску — 15—45 тысяч. 12—13 красавіка ў Жлобіне і Бабруйску беларусы прымуць славакаў. Ідзе падрыхтоўка да шведскага чэмпіяната свету.




**MSK Fashion Week**

**Ад 3 да 6 красавіка ў Мінску** пройдзе першы сезон Мінскага тыдня моды. Будуць мадэльныя паказы і майстар-класы. Адбывацца ўсё будзе ў Нацыянальным мастацкім музеі.



**Noize MC**

**6—7 красавіка ў клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** адбудзецца канцэрт расійскага рэпера Noize MC. Ён вядомы не толькі сваімі песнямі, але і грамадзянскай пазіцыяй. Ён падтрымлівае рух за перамены ў Расіі і Беларусі. Білеты — 290 тысяч.

**Нуэва танга. Астар П'яцола**

**7 красавіка ў 18.30 у ДК Прафсаюзаў** — «Нуэва танга. Астар П'яцола».

**Крама**

**9 крас авіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту «Крама».

**Recha**

**14 красавіка а 19-й у «Графіці»** — канцэрт гурту Recha.

**Dzivasil**

**11 красавіка а 19-й у «Графіці»** — праект Dzivasil.

**ВЫСТАВЫ**

**Паўстанне 1863—1864**

**Да 14 красавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Паўстанне 1863—1864 гг.», на якой прадстаўлена звыш 30 арыгінальных гравюр з французскага часопіса Le Monde illustrè, друкаваныя выданні і рукапісныя дакументы — апублікаваныя ўспаміны сучаснікаў падзей, творы грамадска-палітычных дзеячаў, гістарычныя даследаванні, узоры фалерыстыкі і сфрагістыкі.

**Георгій Скрыпнічэнка**

**Да 20 красавіка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Георгій Скрыпнічэнка. Графіка». У графіцы Георгія Скрыпнічэнкі ёсць не толькі звышрацыянальная чуласць, але надзвычай тонкае валоданне майстэрствам намёку, каштоўнасць аўтарскай мастацкай мовы — у «недагаворанасці», «схаваных сэнсах», што надаюць яго работам шматзначнасць.

**Кватэрнікі. Камбэк у 80-я**

**Да 10 красавіка ў «Доме-музеі І з'езда РСДРП»** працуе выстава «Кватэрнікі. Камбэк у 80-я». Кватэрнік — від музычнага канцэрта, які адбываўся ў гарадской кватэры.

**ТЭАТРЫ**

**4 красавіка**

**Лялек** — «Нататкі вар'ята»
**Оперы і балета** — «Зоркі сусветнага балета»

**5 красавіка**

**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Лялек** — «Шоўк»

**6 красавіка**

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

**7 красавіка**

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Оперы і балета** — «Іаланта»

**9 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Оперы і балета** — «Набука»

**10 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Оперы і балета** — «Набука»

**11 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Балеро»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

**12 красавіка**

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

**13 красавіка**

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Оперы і балета** — «Травіята»

**КІНО**

**«Збавенне» Аляксандра Прошкіна**

Збавенне (Искупление)
Расея, 2012, каляровы, 123 хв.
**Рэжысёр:** Аляксандр Прошкін
**Ролі выконваюць:** Вікторыя Раманенка, Рыналь Мухаметаў, Таццяна Якавенка, Андрэй Панін, Віктар Сухарукаў, Сяргей Дрэйдэн, Екацярына Волкава, Наталля Марозава
**Жанр:** Драма
**Адзнака:** 8 (з 10)

Дачка ненавідзіць сваю маці за несучаснасць і даносіць на яе праваахоўнікам. Малады вайсковец шукае паршткі родных, якіх забіў сусед. Сэрцы герояў знявечаныя. І аднойчы яны сустракаюцца. Дзеянне апошняй карціны Аляксандра Прошкіна разгортваецца ў 1946. Але сіла фільма не толькі ў дакладнай атмасферы часу — з нэндзай, парасківдамі гільзамі і газавай лямпай. Аўтар «Халоднага лета пяцьдзясят трэцяга...» далёкі і ад гламурна-сталінскіх цікавостак, і ад шэрага натуралізму.

Сіла фільма не толькі ў магутнай акцёрскай гульні: Андрэй Панін пранізліва-чалавечны ў ролі мітуслівага інваліда з мудрым сэрцам. А малады акцёр Рыналь Мухаметаў на экране не грае — жыве.

Фільм, зроблены па рамане някідкага Фрыдрыха Гарэнштэйна, — пра людскія душы. Паганскі Новы год з маскамі пад вусатым партрэтам зманяецца ў фільме чаканнем Вялікадня. Электрычнае святло не заменіць святла чалавечых сэрцаў.

Магчыма, гэта найлепшы расейскі фільм апошніх гадоў; і ён прарочыць адлігу. Але ў пракаце карціна амаль незаўважная — лепей не прапусціць.

**Андрэй Расінскі**



# Беларускія санаторыі распрадаюць апошнія пуцёўкі

Знайсці месца на **чэрвень-ліпень** ужо складана.

Зіма ўсё ніяк не сыходзіць, але не сыходзіць... Зіма ўсё ніяк не саступае месца вясне. Аднак дзе правесці свой адпачынак, варта вырашаць ужо цяпер.

Год за годам беларусам расказваюць страшылкі — у айчынныя санаторыі не прабіцца, бо ўсё забраніравана расійцамі. «Наша Ніва» абзваніла самыя папулярныя санаторыі і аздараўляльныя цэнтры краіны, каб даведацца, ці можна яшчэ набыць пуцёўку і колькі гэта будзе каштаваць.

**«Радон»** знаходзіцца на Дзятлаўшчыне. Санаторый спецыялізуецца на лячэнні касцёва-цягліцавай і нервовай сістэм, а таксама палавых органаў. Тутака ж і адна з найлепшых гразелячэбніц. Як вынік, усе месцы распісаныя ажно да канца жніўня! Адзін дзень лячэння тут каштуе $40—50 для беларусаў. Для замежнікаў — напалову даражэй. Адметна, што цэны для небеларусаў прыводзяцца ў расійскіх рублях. Адразу зразумела, каго чакаюць у госці.

На беразе Заслаўскага вадасховішча знаходзіцца **«Юнацтва»**, якое спецыялізуецца на сардэчніках і хваробах апорна-рухальнага апарата. Тры пуцёўкі на май, дзве на чэрвень, чатыры на ліпень і тры на жнівень. Выбар ёсць, але небагаты, таму нявартa марудзіць. За адзін дзень давядзецца заплаціць $50—60. Для замежнікаў — на 40% больш.

У санаторыі **«Беларусачка»** пад Мінскам, які спецыялізуецца на лячэнні цукровага дыябету, раяць пакінуць заяўку на сайце. Месцы пакуль яшчэ ёсць, і на чэрвень, і на ліпень. Цана для беларусаў — $45—60 за дзень. Радуе зніжка для сяброў прафсаюза — 25%.

Санаторый **«Сосны»** на Нарачы можа прапанаваць адно месца ў маі і адзін нумар на дваіх у жніўні. А вось у санаторыі **«Азёрным»** пад Гроднам засталася толькі адна пуцёўка ў канцы мая. Інакш варта запісвацца толькі на кастрычнік.

$50 за дзень у беларускім санаторыі — а мінімальная пуцёўка звычайна ўключае ў сябе 12 дзён — у выніку абыдуцца сямейнаму бюджэту ў немалую суму. Многія абяруць за $500—600 з чалавека выезд на мора ў Балгарыю, Турцыю ці хаця б Крым. Аднак якаснае профільнае лячэнне ў Турцыі наўрад ці сустрэнеш. У гэтым застаецца галоўная перавага айчынных санаторыяў.

**Ягор Марціновіч**



# Беларусы сталі жыць даўжэй

Сярэдняя працягласць жыцця ў краіне **ўзрасла да 72,2 года.**

За мінулы год чаканая працягласць жыцця ў Беларусі зноў вырасла і цяпер складае 72,2 года. Гэта рэкорд за апошнія 20 гадоў. Расійцы тым часам могуць разлічваць толькі на 66 гадоў жыцця, а вось, напрыклад, палякі — ажно на 76 гадоў. У цэлым у Еўрасаюзе гэты паказчык падбіраецца да 80 гадоў.

Адрозненне нашай краіны — вялікая розніца ў працягласці жыцця ў мужчын і жанчын. Беларускі жывуць 77,6 года, а беларусы — толькі 66,6 года. Калі ўлічыць, што на пенсію яны выходзяць у розны час, бачнае гаротнае становішча мужыкоў.

Што радуе, дык гэта рост нараджальнасці. 116 тысяч немаўлятаў — рэкорд за апошняе дзесяцігоддзе. Найбольшы ўнёсак у супольную справу робіць Брэстчына, а найменшы — Віцебшчына.

Што да шлюбаў, то летась іх колькасць трохі зменшылася, як заўсёды ў высакосны год. Затое падлічана, што беларусы ідуць у ЗАГСы ўсё пазней. Сярэдні ўзрост шлюбу ў жанчын склаў 24,6 года, паўторнага шлюбу — 37,6 года. Нарэшце, мужчыны першы шлюб у сярэднім бралі ў 27,6 года, паўторны — у 40,5 года.

**ЯМ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

## Прыватныя абвесткі

**СПАЧУВАННІ**

**Шчыра спачуваем Пётру Рудкоўскаму** ў сувязі са смерцю мамы. Сябры.

**АРЭНДА**

**Здыму кватэру** ў Мінску. Т.: 670-15-05. Андрэй.

**ВІНШУЮ**

**З надыходзячым 30-годдзем** віншую Юрася Цітовіча. Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у бізнесе, знайсці сваё каханне. З павагай, Аляксей.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!




**Бурны дыялог пяці аленіх.**




**Найбуйнейшае ў свеце яйка слановай птушкі будзе прададзена ў Лондане на аўкцыёне Christie's. Слановыя птушкі жылі на Мадагаскары. Вышынёй яны былі да 5 метраў, а вагой — 500 кілаграмаў. Птушку знішчылі яшчэ ў XVII ст. Аднак яйкі працягваюць знаходзіць да сёння. Мяркуецца, што гэтае яйка прададуць за 30 тысяч фунтаў.**




**Фанаты мінскага «Дынама» адзначылі Дзень Волі.**




**Альбом Змітра Вайцюшкевіча «Ваячак» на ўручэнні пятай прэміі сайта Experty.by названы найлепшым дыскам года. «Ваячак» — альбом на вершы польскага паэта Рафала Ваячака, праспяваны па-беларуску.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Клімат у Беларусі прызначаны перш за ўсё для знішчэння патэнцыйнага працаўніка.

* * *

Сямейнае становішча: няма нават ката.

* * *

Мазгі ёсць у кожнага. Проста не ўсе разабраліся з інструкцыяй.

* * *

Традыцыі прыгонных тэатраў адраджаюцца ў Беларусі.

* * *

Тэатр пачынаецца з вешалкі, а беларускі тэатр — з металашукальніка і людзей у цывільным.

* * *

Каб вывесці тэатры на самаакупнасць, усе прыбіральні і гардэробы ў тэатрах становяцца платнымі.

* * *

Іншагароднія студэнты дзякуюць вясне за магчымасць якасна захоўваць за фортачкай прадукты, што хутка псуюцца.

* * *

У Беларусі плануецца распачаць выпуск крабавага сала.

* * *

У касе крамы:

— Малады чалавек, вам 18 ужо споўнілася?

— Але я ж «Пепсі» купляю.

— А я проста цікаўлюся. Я жанчына вольная.

* * *

— Чаго такі сумны?

— Разумееш, калі я іду на рыбу, мой сусед ходзіць да маёй жонкі .

— А ты спрабаваў не хадзіць на рыбу?

— Спрабаваў, але тады ён ловіць маю рыбу...

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Смаленску забаставалі пекары**. Бастуюць пекары ў 13 пякарнях. У забастоўку ўмяшалася паліцыя: трох работнікаў пасадзілі на два тыдні і колькі душ па колькі дзён пад арышт.

**«НН». №14. 1913.**

**Пятро Краўчанка ідзе ў прэзідэнты.** «Лукашэнка лічыць мяне канкурэнтам. Пасля знікнення вядомых палітыкаў, разгрому апазіцыі я сапраўды магу скласці яму канкурэнцыю. Калі ідзеш у палітыку, няма чаго баяцца. Я ўсё жыццё рыхтаваўся да гэтых падзей. За Лукашэнкам закладзена значнае палітычнае і эканамічнае адставанне краіны. Мы не проста не развіваемся, мы пачынаем загніваць. Гэта класічны застой».

**«НН». №13. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8028. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 02.04.2013.
Замова №1594.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13013